ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

12 СНЕЖНЯ 2003 г. № 50/4235

## АНОНС!

Набліжаецца 60-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 60-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Установа «Літаратура і Мастацтва» праводзіць агульнанацыянальную акцыю па стварэнні кнігі .
Запрашаем усіх, хто зацікаўлены, да супрацоўніцтва.



"НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ"
Івана ШАМЯКІНА

13,15




МАКСІМ БОГДАНОВІЧ.

ВЯНОК.

# Я НЕ САМОТНЫ, Я КНІГУ МАЮ...

•

*Вы, хто любіце*
*натрапіць*
*Між страніц старых,*
*пажоўклых*
*Кнігі, ўжо даўно*
*забытай,*
*Блеклы, высахшы*
*лісток, —*
*Праглядзіце*
*гэты томік:*
*Засушыў я на паперы*
*Краскі, свежыя*
*калісьці,*
*Думак шчырых*
*і чуцця.*

СТАР. 2

# ЦІ НЕ ЗАЛІШНЯЯ ТРЫВОГА ВЕРЫ НАВУМАЎНЫ?..

Ну ніяк не можам мы, беларуская творчая інтэлігенцыя, паразумецца між сабою! Здавалася б, што і прычын, нагоды няма, каб выкопваць яміны ды калдобінамі запаўняць агульную дарогу. Дык не ж, без шпілек адзін да аднаго жыць мы не ўмеем, а мо і не хочам. Абавязкова "падавайце нам раздрай", здавольце жаданне ўшчыкнуць бліжняга. Інакш жыццё некаторым здаецца прэсным і нецікавым, пазбаўленым вастрыні.

На такі роздум навяло мяне знаёмства з матэрыяламі "Прамой лініі" ў паважанай газеце "Рэспубліка" №№ 269—270 ад 5 снежня.

Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Леанід Гуляка адказваў на шматлікія пытанні грамадзян нашай краіны. І вось, на самым пачатку вялізнага артыкула мяне здзівіў занатаваны тэлефонны званок міністру ад Веры Навумаўны, якая сярод іншага ўзгадала і штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", калонку галоўнага рэдактара, у якой я пісаў, што "з гэтага нумара "Літаратура і мастацтва" пачынае адводзіць больш увагі самой літаратуры і творчаму працэсу, аналізу новых тэндэнцый у празаічных і паэтычных творах, переаемнасці традыцый. Мастацтва ж будзе займаць *крыху* меншы аб'ём на старонках "ЛіМа". Гэтыя словы вельмі занепакоілі паважаную чытачку "Рэспублікі" і, як яна сама прызнаецца, аўтарку штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". А дарэмна. Давайце задумаемся над наступнымі пытаннямі: літаратура, творчы працэс адносяцца да культуры ці знаходзяцца недзе на ўзбочыне? Празаічныя, паэтычныя, драматычныя творы пісьменнікаў з'яўляюцца культурным набыткам нашай краіны або не? Што ўвогуле разумець пад вызначэннем — культура?.. Вось тут і яно! Не толькі тэатр, кіно, карціны мастакоў, балет і опера... уваходзяць у ёмкае паняцце — культура, але яшчэ і літаратура! Якая быццам бы знаходзіцца прыдаткам чаго заўгодна, але толькі не важкім культурным здабыткам! Хто зацікаўлены ў тым, каб зрабіць расколіну-трэшчыну ў адным непадзельным жывым арганізме — літаратуры і мастацтве? Каму гэта патрэбна і дзеля чаго? Той, хто з'яўляецца падпісчыкам "ЛіМа" і ўважліва чытае яго, лёгка можа параўнаць папярэднія (да майго рэдактарства) нумары газеты і апошнія чатыры (падпісаныя ўжо мною). Няўжо вы заўважылі кардынальныя змены? Не! На старонках тыднёвіка як прысутнічалі публікацыі па мастацтве, так і зараз займаюць пачэснае месца!

Вельмі шкада, што паважаная Вера Навумаўна не задала міністру культуры наступныя пытанні: "Чаму большасць (не памылюся, калі скажу на 90%) бібліятэк не падпісваюцца (лічаць гэта другарадным, не вартым увагі, справай) на "ЛіМ", "Маладосць", "Полымя"?.. Не прапагандуюць слова айчынных пісьменнікаў?"

Часта можна пачуць адказ, што няма запатрабавання, попыту ў чытачоў. Хлусня!

За тры тыдні ў рэдакцыю патэлефанавала каля двух дзесяткаў чалавек са скаргай на раённыя бібліятэкі, у якіх не знайсці аніводнага экземпляра беларускамоўных літаратурных выданняў. Каб не быць галаслоўным, вось вам прыклады: г.п. Бялынічы, г.п. Сянно, г.п. Краснаполле, г.п. Дрыбін, г. Ганцавічы... Пералік можна доўжыць. Вось тыя пытанні, якія варта і неабходна было задаць міністру культуры.

Леанід Паўлавіч Гуляка вельмі слушна заўважыў у сваім адказе на тэлефонны званок: "Без асвятлення пытанняў культуры газета проста не зможа існаваць... Дарэчы, мы ў гэтым плане сур'ёзна працуем са сваімі ведамаснымі друкаванымі выданнямі: газетай "Культура" і часопісам "Мастацтва"...

Усё гэта добра, толькі ж узнікае пытанне: няўжо нельга Міністэрству культуры падсобіць "Літаратуры і мастацтву" (калі мы займаемся агульнымі пытаннямі культуры) па шырэйшым распаўсюджванні штотыднёвіка ў абласных, раённых, сельскіх бібліятэках.

Тады, відаць, ні ў кога не будзе розначытанняў у зразумелых і простых словах.

Мы ж усе жывём на адной зямлі, аднолькава любім яе і кожны ўносіць асабісты (па магчымасці і таленце) уклад у агульную стваральную справу!

**Анатоль КАЗЛОЎ**

# У ВЯНОК БАГДАНОВІЧУ

***8 снежня ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Я не самотны, я кнігу маю...", прысвечаная 90-годдзю адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў М. Багдановіча "Вянок".***



Гэта кніга была выдадзена ў Вільні напрыканцы 1913 года ў друкарні Марціна Кухты. Наклад яе складаў 2000 асобнікаў, таму навуковых супрацоўнікаў музея цікавіць пытанне, колькі іх захавалася на сённяшні дзень. На Беларусі налічваецца прыкладна 30 зборнікаў. У самім жа Літаратурным музеі М. Багдановіча знаходзяцца чатыры экземпляры "Вянка". Адзін з іх належаў У. Дубоўку і быў падараваны ім літаратуразнаўцу Д. Бугаеву, які ў сваю чаргу перадаў кнігу ў музей. Тры астатніх зборнікі маюць аўтографы Максіма Багдановіча і былі падараваны ім сваякам.

У канферэнцыі прынялі ўдзел дэлегацыі з Расіі, Літвы, Украіны, а таксама шматлікія госці, навуковыя супрацоўнікі і выкладчыкі з розных вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. На адкрыцці прывітальнае слова браў прафесар Львоўскага Нацыянальнага універсітэта імя І. Франка Раман Лубкіўскі, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны, які падараваў музею партрэт паэта і адзначыў, што: "Максім Багдановіч — асоба цудоўная: нарадзіўся ў Мінску, з'ехаў з роднай зямлі і жыў у іншым моўным асяроддзі, але пісаў на прыгожай беларускай мове пра сваю радзіму. У сваім зборніку "Вянок" ён вызначыў найгалоўнейшую тэму — вобраз жанчыны, маці, мадонны з дзіцем".

Пасля выступілі ўкраінскі пісьменнік Ігар Паўлюк, М. Лілееў з Санкт-Пецярбурга (сын Ганны Какуевай, у якую быў закаханы М. Багдановіч і якой прысвячаў свае вершы) выказаў словы падзякі і прыгадаў, як першы раз у яго рукі трапіў зборнік "Вянок". Дарэчы, гэты зборнік (а таксама і фотаздымак паэта) ён даслаў у Мінск у дзяржаўную бібліятэку, дзе ён і захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі.



Ад дэлегацыі з горада Яраслаўля на чале з Н. Прохаравай, дырэктарам Мемарыяльнага дома-музея М. Багдановіча, гучалі добрыя словы ў гонар "беларускага паэта з берагоў Волгі". Была выказана надзея, што калі-небудзь канферэнцыя па творчасці М. Багдановіча пройдзе ў Яраслаўлі.

На пленарным пасяджэнні выступілі: доктар філасофскіх навук, загадчык аддзела гісторыі і тэорыі культуры Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны У. Конан, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры замежнай літаратуры БДУ Е. Лявонава, настаўніца вільнюскай беларускай школы імя Ф. Скарыны Леакадзія Мілаш і інш.

Шмат цёплых і сардэчных слоў паэту гучала ў зале. Хаця Максім Багдановіч заўчасна пайшоў з жыцця, ён пакінуў нам багатую спадчыну не толькі як паэт, а таксама як крытык, гісторык літаратуры, перакладчык на беларускую мову твораў А.



Пушкіна, Т. Шаўчэнкі, І. Франка, Г. Гейнэ, Ф. Шыпера.

З 8 па 22 снежня ў музеі працуе выстаўка мастацкіх работ "Пад знакам Стральца" заслужанага дзеяча культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Эдуарда Агуновіча (па матывах творчасці М. Багдановіча).

І хаця радок "Я не самотны, я кнігу маю..." узяты з апошняга верша Максіма Багдановіча, ён не дарэмна стаў назвай і дэвізам канферэнцыі.

**Віктар КАВАЛЁЎ**

***НА ЗДЫМКАХ:** адкрыццё Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Я не самотны, я кнігу маю..."*

# СУПРАЦОЎНІЦТВУ БЫЦЬ!

*4 снежня ў Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная вынікам Дзён культуры Рэспублікі Беларусь у Кітайскай Народнай Рэспубліцы.*

Нагадаю, двухбаковае беларуска-кітайскае культурнае супрацоўніцтва рэгулюецца палажэннямі міжурадавага пагаднення ад 25 лістапада 1992 года, якое паклала пачатак цеснаму ўзаемадзеянню на ўзроўні міністэрстваў культуры абедзвюх краін. Так, у верасні 2000 года ў адпаведнасці з артыкуламі міжведамаснага пратакола аб супрацоўніцтве былі праведзены Дні кітайскай культуры ў Рэспубліцы Беларусь.

У адказ — Дні беларускай культуры ў Кітаі — адбыліся ў красавіку 2001 года адначасова з візітам дзяржаўнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на чале з Прэзідэнтам краіны А. Р. Лукашэнкам.

І вось сёлета ў верасні-кастрычніку Пасольствам КНР у Мінску былі арганізаваны Дні Кітая ў Беларусі, прысвечаныя да святкавання 54-й гадавіны абвяшчэння КНР. А з 26 лістапада па 2 снежня ў КНР прайшлі Дні культуры Рэспублікі Беларусь. У праграме дзён — выступленні Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам М. Казінца і салістаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы РБ А. Краснадубскага, С. Франкоўскага, Т. Гаўрылавай. Выступленні калектыву былі арганізаваны ў Пекіне і Шанхаі.

Пры гэтым, афіцыйная дэлегацыя Міністэрства культуры Беларусі на чале з міністрам культуры Леанідам Гуляка наведала Кітай не толькі з мэтай удзелу ў Днях культуры, але і з нагоды падпісання новага міжведамаснага пратакола аб супрацоўніцтве на 2004—2006 гады.

"Згодна новаму пагадненню, пройдуць у 2004-м і 2006-м гадах Дні культуры Кітая ў Беларусі, а ў 2005 годзе, — Дні культуры Беларусі ў Кітаі", — падкрэсліў міністр культуры Леанід Гуляка. Акрамя таго, у дакуменце прапісаны пытанні культурнага супрацоўніцтва па абмене студэнтамі і выкладчыкамі, асабіста гэта тычыцца Беларускай акадэміі музыкі.

У межах Дзён культуры адбыліся сустрэчы Л. Гулякі з членам Дзяржаўнага савета КНР Чэнь Чжылі і міністрам культуры КНР Сунь Чзячжэнам.

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА**

# "БУРАЦІНА. BY"

***Заўтра, 13 снежня, Беларускі дзяржаўны музычны тэатр прэзентуе новы спектакль. Для дзяцей і дарослых!***

"Гатовага" мюзікла не было. А што было? Цудоўныя песні ды меладычныя інструментальныя тэмы саундтрэка, створанага да фільма "Прыгоды Бураціны" маскоўскім кампазітарам А. Рыбнікавым. І кінасцэнарый.

Дырыжор тэатра Леў Карпенка прапанаваў новую аранжыроўку вядомай музыкі. Рэжысёр-пастаноўшчык Настасся Грыненка сама, на аснове кінасцэнарыя, напісала лібрэта. Яе фантазія разгарнулася ў садружнасці з мастаком-сцэнографам Андрэем Міранковым, і аўтарам харэаграфіі Дзмітрыем Якубовічам (улюбёнец публікі, ён адметны і ў танцы, і ў акцёрскай ігры, і ў вакале). А таксама — з выканаўцамі роляў, пераважна маладымі, сярод якіх ёсць і дэбютанты з ліку артыстаў хору.

"Бураціна. BY" – так назваў тэатр новы мюзікл для дзяцей і дарослых. Першыя паказы прэм'еры – заўтра ўранні (11.30) і ўвечары (19.00), а таксама ўранні 14 снежня.

**С.Б.**

***У Мінскім прафесійна-тэхнічным каледжы электронікі адбылася прэзентацыя сайта Уладзіміра Караткевіча "Быў. Ёсць. Буду", створанага выкладчыкамі і навучэнцамі каледжа.***

# "БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДУ" — І Ў ІНТЭРНЕЦЕ

Па словах выкладчыка беларускай мовы і літаратуры МПТК электронікі Пятра Пятровіча Жаўняровіча, задума стварыць сайт "Быў. Ёсць. Буду" нарадзілася ў яго яшчэ ў 2000 годзе, калі ў сценах каледжа пачаў працаваць узначалены ім музей пісьменніка (дагэтуль вядомы як "Гасцёўня імя Караткевіча" пры інтэрнаце № 2 вытворчага аб'яднання "Інтэграл"). Ідэя даць новае — электроннае — жыццё спадчыне самага папулярнага нашага пісьменніка прыйшлася па душы і адміністрацыі, і многім навучэнцам каледжа, якія дапамагалі Пятру Пятровічу ў гэтай нялёгкай і незвычайнай справе. Праца над стварэннем сайта доўжылася больш за тры гады. Сапраўднай "правай рукой" Пятра Пятровіча была цяперашняя трэцякурсніца каледжа і тэхнічны рэдактар сайта Алена Вальковіч, якая, працуючы над дызайнам сайта, думала найперш аб адным: каб як мага больш маладых людзей далучыліся да творчасці яе любімага пісьменніка. Пра тое ж, колькі працы ўклалі ў сайт яго стваральнікі красамоўна сведчыць адна лічба: толькі на набор і вычытку тэксту было патрачана больш за 4000 гадзін!

Меню сайта складаецца з наступных раздзелаў: "Біяграфія" (дзе можна пазнаёміцца з аўтабіяграфіяй пісьменніка), "Летапіс жыцця і творчасці" (выбраныя артыкулы пра Караткевіча з энцыклапедый), "Бібліятэка" (самы насычаны і складаны раздзел, у якім змешчаны пакуль што толькі беларускамоўныя творы пісьменніка з каментарыямі, а ў будучым з'явяцца і пераклады). "Галерэя" (ілюстрацыі да твораў, малюнкі самога Караткевіча), "Успаміны", "Крытыка", "Гасцёўня" і інш. Ужо за некалькі першых дзён дзейнасці сайта ў ягонай "Гасцёўні" сабралася досыць шмат запісаў наведвальнікаў, у тым ліку нават з далёкіх ЗША.

На прэзентацыю сайта ў музей Караткевіча ў МПТК электронікі прыйшло шмат шаноўных гасцей: дырэктар Інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь акадэмік Уладзімір Гніламёдаў, прафесар і блізкі сябра Уладзіміра Караткевіча Адам Мальдзіс, даследчык творчасці пісьменніка Анатоль Верабей, дырэктар каледжа Валерый Хасін, сваякі Караткевіча, людзі, што стаялі ля вытокаў яшчэ колішняй "Гасцёўні імя Караткевіча" ў інтэрнаце ВА "Інтэграл". Госці дзяліліся ўспамінамі пра пісьменніка,



рабілі музею падарункі, выказвалі захапленне новаствораным сайтам. З асаблівa каштоўнымі падарункамі завітаў у каледж А. Мальдзіс. З уласнай бібліятэкі ён перадаў музею ажно сем кніжак-перакладаў Караткевіча на іншыя мовы (рускую, украінскую, латышскую, літоўскую і польскую) — якраз тое, чаго найбольш і нестaвала музею ды сайту. Ім жа былі прамоўлены на прэзентацыі і дасціпныя словы: "У той час, як лірыкі спяць у шапку, фізікі робяць справу лірыкаў... Вы, "электронікі", першыя, і вам тут гонар. Можа быць, пасля вас з'явяцца сайты і іншых беларускіх пісьменнікаў".

26 лістапада 2003 года Уладзіміру Караткевічу магло б споўніцца 73 гады. Ён не дажыў амаль дваццаць гадоў да таго часу, калі ягонае імя зноў, у які ўжо раз, але зусім па-іншаму, будзе згадвацца побач са словам "першы". Так, ён быў бадай першым "рэальным" беларускім пісьменнікам (у сэнсе тыражоў, усеагульнай любові нават з боку далёкіх ад літаратуры людзей і г.д.). Цяпер ён стаў і першым "віртуальным" беларускім пісьменнікам з трывалай прапіскай — па адрасе http://uladzimir-karatkevich.iatr.by.

**Н. К.**

# ПАСЛУХАЕМ... ФРАНЦЫЮ

Чароўная Францыя... Колькі сэрцаў ты заваявала! Колькі чалавек марaць хаця б на хвіліну апынуцца ў гэтай таямнічай краіне з такой багатай культурнай спадчынай. І гэтую магчымасць дорыць аматарам французскай музыкі Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады. 23 снежня менавіта тут Алена Вашкевіч прадстаўляе вечар французскай музыкі ў праграме "Classical Jazz". Інструментальны ансамбль "Мидиас" выканае "Сюіту для флейты і джазтрыо" і "Сюіту для віяланчэлі і джаз-трыо". Вы пачуеце захапляльную ігру Дзмітрыя Цыпкіна на віяланчэлі, Кірыла Шэвандо на ўдарных музычных інструментах, ігру Сяргея Махава на флейце і Алены Вашкевіч на фартэпіяна. Пачатак імпрэзы а 19-й гадзіне. Няма сумніву, што яна прынясе кожнаму слухачу вялікае мноства новых уражанняў і эмоцый.

**Алеся ГРЫЧЫК**

<u>МАГІЛЁЎШЧЫНА</u>

# УРОКІ Ў БІБЛІЯТЭЦЫ

Супрацоўнікі Цяхцінскай сельскай бібліятэкі Бялыніцкага раёна сабралі багаты матэрыял, які асвятляе разнастайнасць культурнага жыцця жыхароў гэтай вёскі ў мінулыя часы і сённяшні дзень. Пры бібліятэцы дзейнічае этнаграфічны куток, у фондах яе маюцца фальклорныя творы, запісаныя ад мясцовых жыхароў. Таму невыпадкова, што ў бібліятэцы настаўнікі Цяхцінскага комплексу школа-сад з ахвотаю праводзяць урокі па беларускай літаратуры, гісторыі.

Вось і днямі сюды завіталі вучні-чацвёртакласнікі на урок "Беларуская народная казка". Бібліятэкар Людміла Усава расказала хлопчыкам і дзяўчынкам пра гісторыю ўзнікнення народнай казкі, пазнаёміла дапытлівых дзяцей з бібліяграфічным паказальнікам "Беларуская казка", кнігамі адпаведнай тэматыкі. Яны з цікавасцю паслухалі некалькі мясцовых казак. Усе вучні праявілі выключны інтарэс да гульні-віктарыны "З якой гэта казкі?" Затым чацвёртакласнікі пераказалі казкі, з якімі пазнаёміліся дома. За што, як і пераможцы віктарыны, атрымалі ў якасці заахвочвання салодкія прызы.

# І ВЫРАТАВАЛЬНІКІ СПЯВАЮЦЬ...

У байцоў і камандзіраў падраздзяленняў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, вядома, служба не з лёгкіх. Кожную хвіліну яны павінны быць гатовымі да выканання заданняў па аказанні дапамогі людзям, якія патрапілі ў бяду. Нярэдка выратавальнікі пры гэтым рызыкуюць уласным здароўем і жыццём.

І толькі можна па-добраму парадавацца, калі бачыш, як некаторыя з выратавальнікаў знаходзяць яшчэ час і сілы для творчасці.

Па ініцыятыве і падтрымцы Магілёўскага абласнога ўпраўлення МНС днямі пабачыў свет кампакт-дыск і аўдыекасета "Гэта наша работа" з васемнаццацю песнямі, аўтарамі і выканаўцамі якіх з'яўляюцца выратавальнікі Магілёўшчыны.

Уключаны ў яго і дзве песні "Прафесія – пажарны" і "Беражы вас Бог" у выкананні начальніка Бялыніцкага раённага аддзялення МНС Станіслава Бурко. Ён жа з'яўляецца і аўтарам тэкстаў, а музыку да песень напісаў мясцовы кампазітар, кіраўнік эстраднай студыі "Колеры" раённага цэнтра культуры Віктар Халадцоў.

# ВАБНЫ ВОБРАЗ РАДЗІМЫ

Напрыканцы залатога жніўня на Бялыніччыне ў восьмы раз прайшоў Міжнародны пленэр па жывапісе, прысвечаны памяці слыннага пейзажыста Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. На гэты раз у ім прынялі ўдзел 20 мастакоў нашай краіны, Расіі, Малдовы, Украіны. Сярод іх – заслужаныя дзеячы мастацтваў Украіны Віктар Каральчук, Беларусі – Леанід Дударэнка...

Чарговы пленэр стаў гісторыяй. Але цяпер бялынічане маюць магчымасць пазнаёміцца з вынікамі творчай работы жывапісцаў на свежым паветры. У раённым мастацкім музеі імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі разгорнута выстава "Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве", экспазіцыю якой і складаюць жывапісныя творы мастакоў – удзельнікаў восьмага Міжнароднага пленэру.

**Міхась КАРПЕЧАНКА,**
**г. Бялынічы**

***4—5 снежня 2003 года** на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Журналістыка – 2003", у межах якой працавалі сем секцый, у тым ліку "Стылістыкі і літаратурнага рэдагавання", "Гісторыі журналістыкі і літаратуры", "Літаратурна-мастацкай крытыкі"... Уражанне ад працы апошняй секцыі, якой кіравала Л. Саянкова, загадчык аднайменнай кафедры БДУ, было ашаламляльнае.*

*Чамусьці "поліфанічнасць" назіранняў за тэндэнцыямі і перспектывамі развіцця сучаснага мастацтва, плёнам якіх паўстаюць публікацыі ды выступленні ў айчынных СМІ, лёгка змяшчаецца ў "лагчынцы" паміж Ірoніяй ды Істэрыкай, гэтымі Сцылай і Харыбдай найноўшага досведу. У падобным "кантэксце" размова за імправізаваным "круглым сталом", што аб'яднаў літаратуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, культуролагаў, тэатральных і кінакрытыкаў, уражвала канструктыўнасцю палемікі, якая вызначалася перадусім скіраванасцю да выніковай "стваральнасці", але не да "руйнавання" альбо "знічтажальнасці".*

*Здаецца, менавіта чытачу "ЛіМа" варта было б адмыслова паўдзельнічаць у "працягу" згаданай сустрэчы.*

*Можна абраць "утульна-пасіўны" варыянт – і, похапкам ці нетаропка агледзеўшы тыя матэрыялы канферэнцыі, якія будуць з'яўляцца ў рубрыцы "Тэрыторыя культуры", стаічна на іх не рэагаваць. (Спадзяюся, аднак, што першая ж падборка "тэкстаў-тэзісаў" здолее скласці ўяўленне не толькі пра разнастайнасць даследчыцкіх зацікаўленняў сённяшніх крытыкаў, але і пра "якасць" іх навуковага плёну).*

*З другога боку, можна, ухапіўшы рытуальныя дзіды, далучыцца да тлумнай, але ж безвыніковай іранічна-істэрычнай валтузні.*

*Зрэшты, можна дазволіць сабе раскошу быць шчырым, і годным, і сацыяльна актыўным, і пераканаўча-разумным – раскошу быць сабою.*

*Свабода выбару – татальная.*

***Ірына ШАЎЛЯКОВА***

**Вольга**
**МЯДЗВЕДЗЕВА**
*Нацыянальная акадэмія навук Беларусі*

## «КАНЦЭПЦЫЯ САЛАТЫ», АЛЬБО «ТЫРАНІЯ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЙ ПОШЛАСЦІ»

Новы тэлевізійны сезон на БТ пачаўся з абмеркавання патэнцыйных праектаў у праграме "Добрай раніцы, Беларусь!" пад "акампанемент" "канцэпцыі салаты", як абсалютна сур'ёзна абвясціла адна з вядучых, наразаючы на тэлекухні агуркі ды памідоры. Як тут не згадаць пра "нястрымную экспансію ўласнай натуры", адну з галоўных рысаў масавага чалавека, пра што яшчэ ў 30-я гады мінулага стагоддзя пісаў вядомы іспанскі філосаф і даследчык культуры Х. Артэга-і-Гасэт у сваім эсэ "Паўстанне масаў". У раздзеле "Уводзіны ў анатомію масавага чалавека" ён зазначае: тое, "што раней лічылася шанцункам і спараджала пакорлівую ўдзячнасць лёсу, стала правам, якое не бласлаўляюць, але якога патрабуюць". Масавы чалавек, на ягоную думку, зусім не дурны. Наадварот, ягоныя разумовыя здольнасці і магчымасці сёння шырэй, чым калі-небудзь. Але гэта не ідзе яму на карысць. Раз і назаўсёды асвячае ён "мешаніну вядомых ісцін, нязвязаных думак і проста славеснага смецця"... Тыранія інтэлектуальнай пошласці ў грамадскім жыцці, магчыма, найсамабытнейшая рыса сучаснасці, якую найменш можна супаставіць з мінулым... Хіба не ёсць найвялікшым прагрэсам тое, што масы займелі ідэі, інача – культуру? Ні ў якім выпадку. Таму што ідэі масавага чалавека такімі не з'яўляюцца і культуры ён не займеў... Хто прагне ідэй, павінен іх дамагацца... Культуры не існуе, калі няма апірышчаў законнасці, да якіх можна звярнуцца. Культуры няма, калі да любых, нават да самых крайніх поглядаў няма павагі... Культуры няма, калі эстэтычныя спрэчкі не маюць на мэце абарону мастацтва.

Калі ўсяго гэтага няма, дык няма і культуры, а ёсць у самым прамым і дакладным сэнсе слова дзікунства".

Пры ўсёй завостранасці пазіцыі філосафа, на жаль, давядзецца прызнаць, што ягоныя словы не страцілі значнасці і зараз. Сёння, як мяркуюць многія даследчыкі сучаснай культуры, "масавы чалавек" трансфармуецца ў "чалавека натоўпу". Асабліва выразна тое выяўляецца ў практыцы шоу-бізнеса, адмысловай "бізнес-культуры", што прэтэндуе на ўласную эстэтыку.

Сучасны культурны кантэкст – гэта змешванне, а нярэдка і супрацьпастаўленне класічнай і нонкласічнай эстэтык. Класічнаму панаццю творчасці супрацьстаіць ідэя крэатыўнасці (ад англ "to create" – тварыць), што азначае разбурэнне традыцыйных уяўленняў пра культурную іерархію, якая падзяляе культуру на "элітарную" і "масавую". Зараз актуалізаваная іншая апазіцыя. У дачыненні да кінематографа яна гучыць як "аўтарскае" – "жанравае", прычым абодва складнікі часта спалучаныя ў прасторы адной стужкі.

Развіццё атрымлівае ідэя сінестэзіі – сціранне граняў паміж традыцыйнымі відамі і жанрамі мастацтва. Мастацтва лучыцца з немастацтвам.

У падобнай сітуацыі варта спадзявацца на зусім не рамантычную праніклівасць Ю. Лотмана, які сцвярджаў, што "шлях да будучага мастацтва будзе пралягаць праз этап "немастацтва". І калі паміж вяршынямі падзення і ўздыму існуе сіметрыя, дык у будучым мы можам чакаць новага ўздыму мастацтва".

Хочацца, каб кошт гэтых пераўтварэнняў не стаў бы непераадольна высокім і каб "тыранія інтэлектуальнай пошласці" раскашавала як мага менш.

**Пётр**
**ВАСЮЧЭНКА**
*Беларускі дзяржаўны універсітэт*

## СТВАРЭННЕ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА МІФУ Ў КАНТЭКСЦЕ МАСАВАЙ КУЛЬТУРЫ

Свая масавая культура ў звыклым яе разуменні ў беларускай рэальнасці немагчымая, бо прадугледжвае звышвялікія тыражы, а колькасць насельніцтва нашае дзяржавы ледзьве дасягае дзесяці мільёнаў. Колькасць носьбітаў беларускай мовы ў Беларусі значна меншая. У эстэтычнай прасторы Беларусі валадараць чужыя масавыя культуры, але ж нацыянальнае жыццё кожнага народу грунтуецца на падмурках уласнай гісторыі і традыцый.

Рэтрансляцыя нацыянальнай культуры ва ўсясветную адбываецца шляхам перакладу. У лакальным культурным полі самасцвярджэнне нацыянальнай мадэлі адбываецца праз канкурэнцыю з іншымі субкультурамі. Стварэнне нацыянальнага міфу ў наш час – працэс заканамерны, характэрны як для вялікіх, так і для малых нацый.

Некрытычнае і бязладнае засваенне тыражаванай калямастацкай прадукцыі прывяло да перакосу грамадскага густу. Галоўным выдаткам субкультурнай экспансіі (незалежна ад таго, адкуль яна імпартуецца – з ЗША, Германіі, Індыі, Бразіліі, Расіі) мне бачыцца тое, што яе міфалагемы не прыстасаваныя да таго шляху, якім рухаецца беларускае грамадства.

У сённяшніх варунках маскультура ў Беларусі не можа стацца тым, чым была прадукцыя Галівуду за часамі "Вялікай дэпрэсіі" ў ЗША, калі яна выконвала функцыі сацыяпсіхалагічнай тэрапіі.

Стварэнне нацыянальнай ідэалогіі і міфалогіі сродкамі мастацтва абумоўлена некаторымі абавязковымі чыннікамі. Першы з іх – захаванне ўстойлівага балансу паміж традыцыйнай і масавай культурамі. Маскульт знаходзіцца ў стане перманентнай залежнасці ад культурнай традыцыі, у той час як паважнае мастацтва толькі "падпітваецца" здабыткамі маскульту.

Паколькі ж традыцыйнае мастацтва існуе толькі на нацыянальнай глебе, дык архетыпы, знойдзеныя ў рэчышчы гэтай традыцыі, становяцца абавязковымі і для масавай культуры.

Адзін з самых устойлівых архетыпаў Беларускай культуры – ідэалагема дому, культ жытла. Асаблівы беларускі хранатоп будучых твораў маскульту будзе нараджацца з утульнага інтэр'еру старадаўніх замкаў, магнацкіх палацаў, шляхецкіх гнёздаў, заможных сядзіб, дагледжаных сялянскіх гаспадарак.

У гэтах інтэр'ерах будзе разыгрывацца папулярызаваная драма беларускага жыцця. Яе асновай могуць стацца такія шэдэўры беларускай літаратурнай класікі, як раманы і аповесці Э. Ажэшкі, навела "Тралялёначка" Ф. Багушэвіча, творы В. Ластоўскага, У. Караткевіча, І. Мележа, І. Шамякіна, сучасных аўтараў.

Гераінямі такіх твораў могуць стацца літаратурныя вобразы паненак, дзяўчат, паннаў, якім уласцівыя зменлівасць, рух, развіццё, нязмушанасць, непасрэднасць, віталізм, выкшталцонасць, грацыя (Ядвіся, Паўлінка, Надзея Яноўская, Майка – гераіні твораў Я.Коласа, Я. Купалы, У. Караткевіча).

Герой-мужчына міфалагізаваных маскультавых твораў не павінен нагадваць амерыканізаваны тып джэнтльмена, які паказвае ўсмешку на трыццаць два зубы і гатовы пазбавіць зубоў кожнага свайго ворага. Беларускі тыпаж ведае, калі варта ўжыць фізічную моц, але ведае і спосабы пазбегнуць канфлікту. Ён інтравертны, рэфлектыўны, задуменны, самавіты, самаіранічны, цвёрды ў экзістэнцыйным выбары, прагматычны ў побыце, але кранальна бездапаможны ў нестандартных сітуацыях, чым прываблівае жанчын. Такая гераіня, такі герой і такі хранатоп пакуль што створаны толькі ў рэчышчы класічнай беларускай літаратуры і мастацтва. Іх шлях у масавую культуру можа пакласці пачатак станаўленню сучаснага беларускага міфу.

**Галіна**
**БАГДАНАВА**
*Беларускі дзяржаўны універсітэт*

## ПРАБЛЕМЫ ЭСТЭТЫЧНАГА ВЫХАВАННЯ НА СТАРОНКАХ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ДРУКУ

Росквіт цывілізацыі немагчымы без росквіту культуры, якая не толькі дае чалавеку паўнавартасны адпачынак, але, галоўнае, актывізуе яго творчы патэнцыял. І не дарма, калі ў канцы ХХ ст. усе загаварылі пра "японскі цуд", у друку з'явіўся цэлы шэраг публікацый пра дасканалую, заснаваную на вывучэнні традыцый, японскую сістэму эстэтычнага выхавання. Ужо ў пачатковай школе японскія хлопчыкі і дзяўчынкі, як высветлілася, здольныя ўспрыняць у шмат разоў больш адценняў аднаго колеру, чым іх аднагодкі з Еўропы.

На тэрыторыі былога Савецкага Саюза быў вельмі папулярны часопіс "Юный художник", які даваў інфармацыю з гісторыі мастацтва, знаёміў будучых мастакоў з тэхналагічнымі асаблівасцямі розных відаў творчасці. Можна было знайсці інфармацыю па эстэтычным выхаванні і на старонках газеты "Культура", часопісаў "Искусство", "Творчество", "Декоративно-прикладное искусство" і інш.

На пачатку ХХІ ст. Беларусь апынулася ў вельмі адчувальным вакууме інфармацыі па эстэтычным выхаванні. З аднаго боку, працуюць дзесяткі, сотні дзіцячых мастацкіх школ і студый, Дамы рамёстваў і г.д., ёсць навукова-даследчыя ўстановы (у прыватнасці, Беларускі інстытут праблем культуры), якія рупяцца пра зберажэнне і папулярызацыю вопыту эстэтычнага выхавання, а з другога – шырокае распаўсюджанне інфармацыі па эстэтычным выхаванні немагчымае.

Мы свядома не будзем кранаць выданні, якія маюць занадта вузкае кола чытачоў. Звернемся да папулярных сярод настаўнікаў і вучняў "Настаўніцкай газеты", "Раніцы" (да 2002 г.), "Зорьки", "Культуры", "Літаратуры і мастацтва", часопісаў "Пралеска" (дашкольнае выхаванне), "Мастацтва", "Бярозка", "Першацвет" (да 2001 года).

Прааналізаваўшы публікацыі за апошнія гады, можна зрабіць наступныя высновы:

1. Найбольш часта пытанні эстэтычнага выхавання асвятляюцца ў інфармацыйных жанрах ("Настаўніцкая газета", "Культура", "Зорька" і інш.), гэта датычыць як асобных мерапрыемстваў, так і цікавага вопыту.

2. Газеты і часопісы спрабуюць кампенсаваць востры дэфіцыт інфармацыі, асабліва візуальнай, з гісторыі сусветнага і беларускага мастацтва (рубрыкі "Кунсткамера" (гісторыя мастацтва ў вобразах) у "Першацвеце", "Шэдэўры", "У альбом калекцыянера" ("Мастацтва"), "Залатая палітра" ("Раніца"), серыя публікацый у часопісе "Пралеска" і інш.)

3. Набываюць папулярнасць мастацкія конкурсы, якія наладжваюць рэдакцыі (так у 2002 годзе пераможца конкурсу, прысвечанага Г.Х. Андэрсену, 12-гадовая Т. Балакірава змагла наведаць Данію і прывезла адтуль новыя свае малюнкі).

4. З'явілася патрэба фіксаваць і распаўсюджваць вопыт выхавання будучых мастакоў і не толькі мастакоў (публікацыі пад рубрыкай "Эстэтычнае выхаванне" ў часопісе "Мастацтва").

5. На старонках газет і часопісаў вельмі рэдка з'яўляюцца вострыя праблемныя публікацыі па пытаннях эстэтычнага выхавання і мастацкай адукацыі.

6. Практычна не сустрэнеш нарысаў пра лепшых выкладчыкаў такога прадмета як "Сусветная мастацкая культура", які ёсць у раскладах усіх сярэдніх школ, выкладчыкаў спецыяльных дысцыплін, якія выхавалі вядомых ва ўсім свеце мастакоў, музыказнаўцаў і г.д.

ХХІ стагоддзе, як сцвярджаюць філосафы, будзе стагоддзем гуманітарным. А без эстэтычнага выхавання гуманізацыя грамадства немагчымая.

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## ВЕЧАРЫНА КНІГІ

Прэзентацыя гістарычнага рамана Васіля Якавенкі "Надлом" праходзіла ў вялікай зале Дома літаратара. Адкрыў вечарыну ўступным словам Алесь Пашкевіч, старшыня СБП. З выяўленнем свайго стаўлення да аўтара і аналізам яго нага твора выступілі А. Рагуля, У. Конан, А. Мальдзіс, Л. Савік, М. Кенька, А. Белы, навукоўцы Я. Фядзюшын і Л. Эміліт, мастакі М. Карпук, А. Цыркуноў, святар Г. Казлоўскі, рабочы Я. Максімаў... і, думаецца, невыпадкова твор выклікаў спрэчкі. "Мае гутаркі з пісьменнікамі, якія ўжо пазнаёміліся з раманам "Надлом", — сказаў аўтар твора, — паказалі, што некаторыя з іх, як ні дзіўна, на сённяшні дзень яшчэ знаходзяцца ў палоне сталінізму і так званага метаду сацыялістычнага рэалізму. Яны самі сябе сціскаюць за горла і дазіруюць кісларод, якім дыхаюць і якім напаўняюць раманы, аповесці... Як мне ўяўляецца, мой "грэх" перад беларускай літаратурай заключаецца ў тым, што я рашуча паламаў рамкі сацыялістычнага рэалізму і выйшаў на праўду — на праўду жыцця, на праўду гісторыі, на ўдаўнелы сум і боль беларускай душы".

Вёў прэзентацыю паэт С. Законнікаў. Урыўкі з рамана "Надлом" артыстычна прачыталі студэнты IV курса БДУ культуры А. Скрытнік, У. Козічаў, Д. Тарасенка. З канцэртнымі нумарамі выступілі салістка Дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі С. Голуб і заслужаны артыст рэспублікі В. Купрыяненка.

У падрыхтоўцы і правядзенні вечарыны разам з СБП прынялі чынны ўдзел фундаментальная бібліятэка БДУ і асабіста І. Шкіронак, а таксама загадчык лабараторыі фальклору філфака В. Ліцьвінка і вядомы рэжысёр В. Мазынскі.

Н. Д.

ВЫДАННІ

## БЕЛАРУСКАЯ "ЮНОСТЬ"

Маскоўскі часопіс "Юность" — з тых выданняў, якія, памятаючы добрую завядзёнку, па-ранейшаму значную ўвагу надаюць публікацыям твораў аўтараў, якія жывуць у колішніх савецкіх рэспубліках, а цяперашніх незалежных дзяржавах. Зноў жа па традыцыі не забываецца Беларусь. Але найчасцей на яе старонках прадстаўляюцца асобныя аўтары, а вось восьмы нумар за селетні год ці не напалову атрымаўся беларускім. Рускамоўны чытач атрымаў магчымасць як бы перагарнуць выбраныя старонкі нашай сучаснай літаратуры. Канечне ж, найперш трэба назваць знакамітую "Пагоню" Івана Пташнікава, змешчаную ў перакладзе Уладзіміра Машкова. Менавіта знакамітую, бо гэта сёмая публікацыя апавядання Івана Мікалаевіча. Як вядома, "Пагоня" ўпершыню пабачыла свет у "ЛіМе", потым былі публікацыі ў часопісах "Беларуская думка", "Нёман" і іншых. І, нарэшце, настала чарга "Юности". Змешчаны афарызмы Георгія Марчука, вершы Феліска Мысліцкага, Сяргея Красікава, а таксама ў перакладзе Браніслава Спрынчана і Віктара Цімафеева, Івана Карэнды. Багата прадстаўлена і публіцыстыка. Друкуюцца адказы Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі Паўла Барадзіна на некаторыя пытанні, зададзеныя яму жыхарамі Расійскай Федэрацыі і нашай краіны ("Саюзная дзяржава — агульная справа беларусаў і расіян"). Барыс Рабухін гутарыць з генералам арміі Уладзімірам Шуралёвым аб стане Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і яе ваенным супрацоўніцтве з Расіяй ("Мацаваць ваеннае супрацоўніцтва Саюза Расіі і Беларусі"). Гэтую тэму па сутнасці працягвае Мікалай Жучко ("Адзіны шчыт"). Лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы Аляксей Дудараў прызнаецца: "Больш за ўсё на свеце я не люблю тэатр" (гутарка з Дзмітрыем Падбярэзскім). Субяседнікі Алеся Каждуба — Ігар Лучанок ("Людзі культуры павінны аб'ядноўваць") і старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч ("Мы адкрыты для супрацоўніцтва"). Інтэрв'ю Юрыя Цюрына з Уладзімірам Гасцюхіным называецца "Сыграць бы Дзмітрыя Данскога". На першую ж старонку вокладкі нумара вынесены радкі С. Красікава:

Белоруссия! Белоруссия!
Я люблю твои нивы русые
И старинный былинный сказ.
Думы общие, судьбы общие
Породнили с тобою нас.

А. М.

# • КРЫТЫКА •

***У беларускай мастацкай культуры ў ХХ стагоддзі склалася спецыфічная сімволіка філасофскага спасціжэння эпохі. Асабліва значныя дасягненні ў азначванні гістарычнага часу і нацыянальнай культурнай прасторы належаць пейзажнаму жывапісу, медытатыўнай лірыцы, сацыяльна-філасофскай прозе.***

## «СВАІМ ХОДАМ, ЧАСАМ ЛОМКІМ...»

Нямала падстаў для падобнага роду сцвярджэнняў дае і раман Васіля Якавенкі "Надлом" (Мн.: Беллітфонд, 2003) – першы зварот шырокавядомага публіцыста да эпічнай жанравай формы.

Можа паказацца, што папярэдняя гаворка пра праблемы нацыянальнага семіёзісу не адпавядае мэтам рэцэнзавання першага ў творчай біяграфіі пісьменніка рамана. Ці не лепш было б адзначыць дасягненні і пралікі, якія абавязкова ж павінны быць у першым эпічным творы аўтара, і па традыцыі параіць яму больш практыкавацца ў напісанні малых жанравых формаў?

Больш ці менш значныя недахопы ў кампаноўцы багатага гістарычнага матэрыялу, сюжэтабудове, у выкарыстанні выяўленчых сродкаў, зразумела, можна і трэба адзначыць. Чытачу хацелася б, напрыклад, атрымаць больш пераканаўчую сацыяльна-псіхалагічную матывацыю паводзін некаторых герояў. Рэтраспектыўны паказ даваеннага станаўлення такіх персанажаў, як Данік Плюнгер і Іллюк Дубовіч, мог бы стаць выдатным кантрастам да жыццяпісу Рамановічавага радаводу. Зрэшты, аўтару не заказана і сёння ўзмацніць гучанне гэтай тыповай для беларускага быцця паралелі, не позна выправіць і моўныя хібы (русізмы, неапраўданую падмену "цікавасці" "цікаўнасцю"), памылкі друку (камандзір Баранавіцкага партызанскага злучэння Чарнышоў на с. 395 стаў Чарнышэвічам). Недахопы, нават прыватныя, ёсць недахопы, але ў рамане "Надлом" увага чытача засяроджваецца ўсё ж на глыбіні мастацкай інтэрпрэтацыі, вобразнага ўвасаблення беларускага быцця. У творы разгортваюцца і забяспечваюцца чалавеказнаўчым зместам культурныя сэнсы, папярэдне выкладзеныя ў такіх мастацкіх канструктах, як "забраны край", "вобразы мілыя роднага краю", "на шумнай цыркавой арэне", раскрываюцца новыя мадыфікацыі топасаў "бесы" (д'яблы), "свой чалавек". Дамінантай праходзіць знакавы матыў усходняй тыраніі – вобраз балю пераможцаў на дошках, якія пакладзены на звязаныя целы жывых палонных.

Семантычная повязь В. Якавенкі з даследчыцкім кірункам класікі і самастойнасць яго каштоўнасных установак заканамерна прыводзяць аўтара на канцэпталагічны ўзровень арыгінальнага мастацкага мыслення. В. Якавенка ў першым сваім рамане ўжо здолеў стварыць забяспечаныя чалавеказнаўчым зместам ёмкасці, роўнаважлівія філасофскім канструктам. Вось тут якраз і выяўляецца роля яго папярэдняй дзейнасці ў жанрах публіцыстыкі і нарыса. В. Якавенка заўсёды працуе з жывой гісторыяй. Яго персанажы – гэта вобразы існуючых людзей, і гэта абавязвае аўтара да тыпізацыі асобага роду – азначвання, канцэптуалізацыі самога факту. Дасягаецца гэта праз пашырэнне кантэкстуальнага кантыніуму. У такой сітуацыі неабходнасць дамінуе над верагоднасцю, а семантыка вырастае з суаднесенасці і ўзаемасувязі рэаліяў, а не творчай, няхай сабе гіпатэтычна рэальнай фантазіі. Аўтар гістарычнай дакументалістыкі стаіць перад пагрозай застацца з фатаграфічнай копіяй рэальнасці, напісаць "яшчэ адну старонку", нічога не дабаўляючы да сэнсавага паглыблення. З В. Якавенкам гэтага не адбылося. В. Якавенка ўспрымае беларускі "знак бяды" і "чалавечы знак", зыходзячы з экзістэнцыяльнай патрэбы нацыянальнага самасцвярджэння.




Нязадзейсненую, хоць гіпатэтычна вельмі верагодную "казку жыцця" ў сваіх Сумлічах (Цімкавічах) К. Чорны разглядаў на "вялікім скрыжаванні" крывавых гульняў еўрапейскай геапалітыкі. В. Якавенка ўбачыў быццё свайго Моталя на скрыжаванні крыважэрных інтарэсаў прэтэндэнтаў на сусветнае панаванне.

Тым не менш з таго часу, як Беларусь, а разам з ёю і Моталь, страцілі сваю дзяржаўную годнасць, тут на працягу двух стагоддзяў дзяржаўнае кіраванне ажыццяўляюць чужынцы – бяруць уладу метадам "накатаў". Гэтая хвароба яшчэ больш небяспечная за былыя наезды сарматысцкай мультыраніі. В. Якавенка ўпершыню пасля класікаў на пачатку дзяржаўнага адраджэння звярнуўся да матыву "забранага краю". Савецкі парадны партрэт Беларусі – гэта край фабрык, машын, і абавязкова Беларусь "сінявокая". На працягу дзесяцігоддзяў гэты імідж засланяў "праўду веку". Яна – пад "накатамі" Суворава, Мураўёва-вешальніка, кайзераўцаў, пілсудчы-

## ТАНЮ ШКАДА...

***"Это не та, — воскликнул Иаков, увидя в рассвете лицо жены, с которой уже "переспал".***

**(В.Розанаў, "Апошняе лісце")**


Фантасмагорыя ад Някляева



Не так даўно я ўскосна і адасоблена-гідліва паспрабаваў абазначыць межы бруднага і друганага ў мастацкай літаратуры. У сваім разуменні, вядома. І як прыклад негатыўнай праявы згадаў "раманчык" Уладзіміра Някляева "Лабух". Між іншым, мімаходзь і тактоўна. Па-першае, пашкадаваў псаваць рэпутацыю выдатнаму паэту, па-другое, падумалася, што чалавек "за кардонам" проста ад адчаю і адзіноты "даў маху", не "ўстаяў перад подыхам маскультуры"... Дый апошнія па часе паэтычныя творы У. Някляева "гаварылі" мне і ўрэшце "ўгаварылі" да прымірэнчай пазіцыі... (Хоць недзе *паралельна* да ўсяго зыбалася ў маёй памяці яго напаўдысідэнцкая рускамоўная "мацюгальная" паэма "Русский поезд", быццам бы перакладзеная з беларускай Евай Эн. Толькі вось з якой жа гэта беларускай нацыянальнай лаянкі "вырас" такі рускамоўны "трохпавярховы" матпераклад...

Ды дзеля бліскучай паэмы "Паланэз" і на гэта рукой махнулася: ну, хоць ды тэкст у спісах, а можа, і не ён яго напісаў, можа, правакацыя якога псеўдаапазіцыянера, хоць што праўда, ідзя там прабеларуская... (Ну ніяк не магу ўцяміць, чаму гэта паэта Някляева апошнім часам усё часцей і часцей цягне да такіх *пагранічных* рэчаў. Няўжо вычарпаўся ўвесь станоўчы вопыт творчага жыцця таленавітага паэта?..)

Безумоўна, як сталы літаратар я разумею, "из какого сора растут стихи", але ж не сам "сор", заўважце, а — паэзія з яго.

І, у рэшце рэшт, не цэнзар я "*галоўлітаўскі*", каб не дапускаць "недопустимое" ў мастацкай творчасці. Ды ўсё ж ёсць і ў літаратуры пэўныя маральныя межы, якія хоць нікім і не пазначаюцца, апроч як Звыш, але вычуваюцца кожным сапраўдным творцам. І я, дарэчы, памятаю з часоў сумеснай працы ў часопісе "Крыніца" вядомую, неаднойчы прамоўленую на публіку, тэзу Уладзіміра Някляева: *я схільны да кампрамісаў, аднак да пэўнай мяжы, за якую не пераступлю ні пры якіх варунках...* Дык што ж азначаюць нядаўнія публікацыі паэмы і "раманчыка" — што самазабаронная мяжа яшчэ не пяройдзена ці ўсё ж паэт пераступіў яе наперакор сваім былым маральным прынцыпам? Вунь жа, нават сам Аляксандр Сяргеевіч аднойчы не ўтрымаўся і "забаловал", напісаў непрыстойную казку "Цар Мікіта і сорак яго дачок". Казка хадзіла ў спісах і толькі ў 1949 годзе ў 2-м томе Поўнага 10-томнага збора твораў была нарэшце апублікавана... Дык тая ж казка пушкінская перад някляеўскімі "поездам" і "Лабухам", як Папялушка перад путанай...

*"Как бы это изъяснить,*
*Чтоб совсем не рассердить,*
*Богомольной важной дуры,*
*Слишком чопорной цензуры.*
*Как быть?.. Помоги мне бог!*
*У царевны между ног...*
*Нет, уж это слишком ясно*
*И для скромности опасно, —*
*Так иначе как-нибудь:*
*Я люблю в Венере грудь,*
*Губки, ножку особливо,*
*Но любовное огниво,*
*Цель желанья моего...*
*Что такое?.. Ничего!..*
*Ничего иль очень мало...*
*И того-то не бывало*
*У царевен молодых*
*Шаловливых и живых."*

Хоць у даваршэнне казкі А.Пушкін не прамінуў пакінуць чытачу такі пасаж дзеля *апраўдання* "своей игривости":

*"Многие меня поносят*
*И теперь, пожалуй, спросят,*
*Глупо так зачем шучу?*
*Что за дело им? Хочу!.."*

каў, бальшавіцкіх камісараў, гітлераўцаў. Беларускі сэнс (у рамане "Надлом" ён мае выгляд пчалінай "наасферы" – пчалінай гаспадаркі Пятра Пісарчука) не змог сябе па-сапраўднаму сцвердзіць у беларускім горадзе на вейшага часу пад цяжарам "накатаў" з чужыны. Накаты былі розныя, але апека з іхняга бо́ку заставалася нязменнай: "турмамі песціці, петлямі лашчыці" (Купала). Бальшавіцкі "накат" быў разлічаны на рэалізацыю праграмы, абвешчанай Мураўёвым: ліквідацыя культуры і мовы праз сістэму адукацыі і выхавання. Замест гаспадарскай парадыгмы – люмпенізацыя інтэлігенцыі, стаўка на "чалавека без багажа". Абгрунтаванне татальнаму расчалавечванню – "тэорыя" класавай нянавісці і практыка чырвонага тэрору. Першапачатковы мінімум гэтай праграмы – разбурэнне кроўнасваяцкай блізкасці і гістарычнай памяці. Кампенсацыяй павінна стаць аддана сць партыйнай тыраніі. Энтузіязм – калі ласка, але ў форме працоўных армій. Хто думае інакш – той вораг народа.

У рамане "Надлом" раскрываецца спецыфічная для палескага рэгіёна пацяробаўшчына, характэрная з часоў калектывізацыі: "Мёртвых цел ляжаць пракосы, кроўю краскі зацвілі" (М. Зарэцкі). Найбольш актыўным прыхільнікам і практыкам бальшавіцкай санацыі стаў малады чалавек без роду-племені Данік Плюнгер. Статус партыйнага актывіста, зброя ў руках і ўлада партызанскага камандзіра, нянавісць і падазронасць поўнасцю кампенсавалі адсутнасць маральнай нормы. Дзяржаўна-партыйная тэорыя забяспечыла магчымасць спалучэння чалавеказабойчай практыкі з маральным камфортам. Даніку маглі б пазайздросціць пушкінскі Барыс Гадуноў, Раскольнікаў, Вялікі інквізітар, Пятро Верхавенскі і нават Смердзякоў з д'ябаліяды Дастаеўскага: ім яшчэ трэба было прыстасаваць хрысціянства да апраўдання чалавеказабойчай практыкі. Даніку не сняцца крывавыя хлопчыкі начамі, не турбуюць нават цені знішчаных, прах яго роднай сястры і маці. Кожны стрэл Плюнгера ў патыліцу ўсё адно каму: дзеячу нацыянальнага адраджэння Скірмунту, таварышу па партыі, суседу, які занадта шмат ведае пра Даніка, свяяку, які ратаваў яго ад фашыстаў, – кожны стрэл апрыёрна апраўданы тэорыяй класавай нянавісці: "Між іншым, камуністычны ход падзей даў Плюнгеру і ўсяму ягонаму хаўрусу магчымасць адкрытых грамадзянскіх забойстваў у імя самаадчування сябе творчай асобай".

Васіль Якавенка падкрэслівае маштабнасць перманентнага катастрафізму, творанага плюнгераўшчынай на беларускай культурнай прасторы.

Найбольш адчувальнай і цяжкай духоўнай траўмай беларускай нацыі стала страта гаспадарскай парадыгмы. У рамане "Надлом" узноўлена карціна вынішчэння двух гаспадарскіх радаводаў Беларусі. Плюнгер і яго хаўруснікі знішчылі ў 1939 г. Рамана Скірмунта, а ў гады вайны звялі са свету бацьку і сына Рамановічаў. Гаспадар Пятро Рамановіч, пчаляр і кніжнік, і дыпламат, фундатар беларускага адраджэння Раман Скірмунт былі аб'яднаны духоўна беларускай ідэяй. Гэтыя вобразы паўстаюць у творы як сімвалы тварэння беларускай нацыянальна-дэмакратычнай культуры. Сінтэз царкоўнай, рыцарскай, рамесніцкай і сялянскай субкультураў згодна з савецкім афіцыёзам быў немагчымы, дармо што гэтым шляхам пайшло ўсё чалавецтва. Р. Скірмунт выказаў сваю этнакансалідацыйную праграму ў шэрагу прац. Сярод іншых вылучаецца "Голас мінуўшчыны і патрэба часу" (1905).

В. Якавенка ў сваім гістарычным рамане надае дзейнасці Р. Скірмунта вялікае значэнне, маючы на гэта цвёрдыя падставы. Адраджэнская праграма Р. Скірмунта зрабіла вялікі ўплыў на пазіцыю "Нашай нівы", якую вульгарызатары якраз і ахайвалі за тое, што на яе старонках вырашаліся актуальныя праблемы станаўлення беларускай нацыі як суб'екта культуры. Блізкім па сваіх поглядах да Р. Скірмунта быў і Вінцук Гадлеўскі, забіты немцамі ў час акупацыі.

Пчаляр і сейбіт Пятро Рамановіч невыпадкова атрымаў у народзе прозвішча Пісарчук: сапраўдны беларус спрадвеку "бысть зело книжен". Невыпадкова таксама, што сюжэтная лінія Пісарчука сваімі сэнсамі пераплятаецца са слаўным гістарычным мінулым Моталя ў XVI ст., калі горад атрымаў правa на самакіраванне. Адчуванне духоўнай повязі пакаленняў, патрэба яе ўмацавання падштурхоўваюць пісьменніка да выкарыстання такіх жанравых формаў, як сказ, сон, відзяж, якія вяртаюць да жыцця дух вядомых на Палессі легендарных пракокаў. Побач з Пісарчуком з мінуўшчыны паўстала постаць Мікіты Парыпы.

Аднак жа трагічны пафас рамана нарастае з кожнай старонкай. Эпілог наогул нагадвае рэквіем. Уцалелыя рэшткі радзіны Рамановічаў раскіданы па ўсім свеце. Увасабленнем энергіі болю і нязломнай патрэбы ў адраджэнні бацькаўшчыны паўстае ў фінале вобраз беларускай жанчыны Мані – унучкі Пятра Рамановіча, дзіцячага ўрача, грамадзянкі ЗША...

І яшчэ адзін вобраз-сімвал заканчвае раман. Праз крывавы туман дзесяцігоддзяў Манін родны Моталь бачыцца як "чорная надмагільная груда", але ў памяці навекі застаўся і яе дзед – заснавальнік пчалінай наасферы, "святы чалавек".

В. Якавенка ў рамане не разменьваецца на маралізатарства, не выдае рэцэптаў удасканалення соцыуму. Ён вышэй за ўсё цэніць уменне нацыі ісці сваім ходам, каб "застацца сабою, у сваіх берагах" – тварыць сваю будучыню. Раман "Надлом" стаў асэнсаваннем жыццятворнай сілы беларускай нацыі, якая насуперак усім "накатам" творыць суверэнную сваю дзяржаву.

Заснаваны на багатай фактуры, раман В. Якавенкі "Надлом" развейвае многія сацыяльныя міфы недалёкай мінуўшчыны і шмат у чым па-новаму раскрывае стваральны патэнцыял беларускай нацыі.

**Аляксей РАГУЛЯ**

Дык сапраўды ж шуткаваў тут Пушкін ("Ай да сукин сын!"), забаўляўся дзеля ўласнага задавальнення і без усякіх прэтэнзій на *дывідэнды*, гонар і народнае ўшанаванне (бо разумеў, што не гэтым "ён помнік узвядзе сабе нерукатворны", а ясна ўсведамляў, што "долго будет тем любезен *он* народу, что чувства добрые он лирой пробуждал. Что в *его* жестокий век восславил *он* Свободу и милость к падшим призывал"...

Не, лепш я ўжо застануся з "недасканалым" электаратам, чым з "закончанымі" лабухамі, бо да якой жа ступені трэба не паважаць жанчыну, каб так здзекавацца над яе жаночай і мацярынскай святасцю, няхай сабе і ў кантэксце літаратурнага фармалізму? Прыкладна гэтак я разважаў, пішучы тыя два "антылабухаўскія" абзацы ў сваім артыкуле "Перадумова творчасці" ("ЛіМ" №№ 44—45).

І вось сёння чытаю ў газеце "Новы Час" рэцэнзію Таццяны Вабішэвіч "Фантасмагорыя ад Някляева". Дваццацітрохгадовая нядаўняя выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры(!) выступае своеасаблівым — ціхім і прысаромленым — адвакатам таго самага "раманчыка" "Лабух". Чаму, скажам, пра такія распусныя рэчы не выказаўся "загартаваны ў баях" сам даўні сябар Уладзіміра Пракопавіча, супрацоўнік "НЧ", вядомы пісьменнік Кастусь Тарасаў, а "змушана" адвешвае цнатлівыя рэверансы на адрас паэта такая маладзенькая і гожая дзяўчына?

(А мо жанчынам такое мужчынскае стаўленне да іх і падабаецца — жахаюся я сваёй цынічнай падумкі — бо вось жа цікавяцца гэтай непрыстойнай кніжкай і нават, як бачым, намагаюцца пісаць на яе *замоўлена-апраўдальныя* рэцэнзіі.)

Аднак тое, што Таццяна прачытала гэты опус я не сумняваюся, бо на свае вочы бачыў як гэта ўпотайкі рабілі нават удвая старэйшыя за яе жанчыны. Забароннае, грэшнае прыцягвае, як магніт, і не кожны ад яго ў сілах адгарадзіцца. Гэтай чалавечай слабіной і карыстаюцца гвалтаўнікі духу. Але хай бы ўжо хоць шырока не разгалошвалі пра тую непатрэбшчыну ў перыядычным друку. Таму, ад няёмкасці апусціўшы вочы, Таццяна Вабішэвіч шчыра папярэджвае чытача: *"Цалкам верагодна, што некалькі хвілінаў чытання шмат для каго будзе дастаткова, каб зрабіць пэўныя высновы і з гідлівасцю (абурэннем, неразуменнем, расчараваннем і г.д.) адкласці "Лабуха" ўбок. Маўляў, дабра такога хапае — адзін Глёбус чаго варты...* (Ну, навошта так зняважаць А.Глобуса, ён да такой распусты ў сваіх творах не дацягвае.) **У "Лабуху" ёсць не проста эратычнае ці непрыстойнае, тут ёсць сапраўды бруднае. Бруднае настолькі, што нават самога галоўнага героя Рамана Канстанцінавіча-Ромчыка-Раманчыка ванітуе. І калі б на вокладцы кнігі стаяла папярэджанне "Дзецям да 16-ці...", яно б зусім не было лішнім. Прычым гэта не перабольшанне і не пурытанства. Такая "цэнзурная" перасцярога патрэбная яшчэ і таму, што пры чытанні патроху пачынаеш разумець: за "лёгкасцю" і "гуллівасцю" формы хаваецца надзвычайная сур"ёзнасць зместу".**

Прабачаюся за доўгую цытату з Т.Вабішэвіч, але яна вартая згадкі, бо па-за ёй работа і службовы абавязак перамагаюць сорам і цнатлівасць маладой рэцэнзенткі. Далей, схаваўшыся за мажнымі постацямі Маркса, Ніцшэ і Фрэйда, яна даказвае патэнцыяльнаму чытачу, якую — аказваецца! — высокую адраджэнскую і змагарна нацыянальную ідэю заклаў аўтар "раманчыка" ў глыбокіх сутарэннях падтэксту: маўляў, лабух *"на сабе адчувае і Марксава "нельга жыць у грамадстве і быць вольным ад яго", і Ніцшава незадавальненне слабасцю сучаснага чалавека, і Фрэйдава неадольнае лібіда"*. Ей-бо, можна падумаць, што Таццяна разважае над раманам "Злачынства і пакаранне" Ф.Дастаеўскага...

З яе довадаў вынікае, што барацьба за светлыя ідэалы Бацькаўшчыны апраўдвае і пошасць, і подласць, і гвалт... А дзе ж тэзы пра "слезу ребенка" і пра "красоту, которая спасет мир"?.. Ці па-за межамі незалежнай Беларусі засталася ўжо і ўся сусветная культура?!

Можа, хто падумае, што надзьмуўшыся, я ўпарта змагаюся тут, як Дон Кіхот, з нейкімі ветракамі. Праблема насамрэч істотная і балючая. Я не магу тут наваt на карысць уласнай аргументацыі працытаваць **тыя** месцы з "раманчыка" (не цытуе **іх** у сваёй рэцэнзіі і Т.Вабішэвіч — ці не з той жа прычыны?)

Таму пацешу вас хоць тым, чым скончыла сама Таццяна, і, відаць, што выліласа гэта ў яе не ад самога працэсу літаратурнага акту, а ад вызвольнага і бязрадаснага завяршэння яго: *"Дык ці застаўся Някляеў-празаік паэтам? Няма сумневу, "Лабух" — твор вельмі неадназначны. Цынічнасць лексікі, фізічная ды духоўная аголенасць герояў хутчэй за ўсё справакуюць чытача на такую ж вострую — адмоўную або станоўчую — рэакцыю. Што ж, магчыма, жорсткасць ацэнак і моцны выспятак сёння неабходныя, каб (словамі аднаго з герояў рамана) наш гонар не дазваляў нам быць кімсьці іншым, апроч беларусаў".*

Якая хітра закручаная патэтыка, нераўнуючы як танны селядзец у "Комсомольскую правду"... Але пры чым жа тут гонар і беларушчына, калі рэч вядзецца пра чалавечую амаральнасць. Зрэшты, дарма я, відаць, крыўджу тут маладую прыгожую і таленавітую дзяўчыну. Нядаўна прачытаў цікавы яе верш "Адпрэчанне" ў калектыўным зборніку "Літаратурны квартал", што пабачыў свет пры РВУ "Літаратура і Мастацтва", нібыта на заказ нашай завочнай палемікі напісаны:

*Словы скажуцца так —*
*зразуметыя будуць іначай:*
*Хіба варта наноў*
*вытлумачваць іх зменлівы сэнс?*

Шкада Таню...

*P.S. Нядаўна даведаўся праз "Нашу Ніву", што "Лабух" намінаваны на ТВЛаўскую прэмію "Гліняны Вялес". Што ж, падумалася, на такую прэмію, відаць, можа і "Лабух" прэтэндаваць, бо, скажам, на Дзяржаўную прэмію У.Някляеў намінаваўся з выдатнай кніжкай паэзіі "Прошча", і ўрэшце атрымаў тую прэмію (імя Янкі Купалы). Неўзабаве ўведаем, ці ўганаруюць у Полацку "Лабуха" "Гліняным Вялесам"?*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# "Всемирная литература" — школе

Дзевяць год таму ў нашай рэспубліцы пачалося вывучэнне такога асаблівага прадмета, які фарміруе асновы светапогляду, як "Сусветная мастацкая культура". Сем год таму ў Мінску з'явіўся "тоўсты" літаратурны часопіс "Всемирная литература", дзе друкуюцца арыгінальныя пераклады лепшых твораў сусветнай літаратуры, якія ў большасці сваёй ніколі не выдаваліся на рускай мове. Сустрэча "сусветнага" прадмета і "сусветнага часопіса" абавязкова павінна была адбыцца, і яна адбылася — у канцы гэтага года.




Трэба сказаць, што многія публікацыі часопіса і раней маглі выклікаць цікавасць у выкладчыка школьнага курса — цікавасць не толькі самую агульную, "інтэлектуальную", але і чыста практычную. Можна згадаць, напрыклад, гісторыка-літаратурнае эсэ вядомага англійскага пісьменніка Эдуарда Форстэра "Александрыя", якое змешчана ў травеньскім нумары гэтага, 2003, года. Э. Форстэр пераканаўча даводзіць, што старажытная Александрыя, гэты унікальны, заснаваны на стыку антычнай і егіпецкай цывілізацый горад, была адным з галоўнейшых цэнтраў культуры і навукі. Гісторыя горада ў яго пераказе робіцца гісторыяй пошукаў і развіцця чалавечага мыслення. Вучоныя, літаратары, філосафы, рэлігійныя дзеячы, што жылі ў горадзе, вызначылі галоўныя напрамкі чалавечага мыслення на цэлыя стагоддзі і тысячагоддзі. Словам, нарыс Э. Форстэра — гэта добрая падмога для ўрока па курсе "Сусветнай мастацкай культуры".

Аднак, зразумела, што школьнаму выкладчыку патрэбны не толькі агульныя, "для душы" нарысы, але і канкрэтны на вызначаную праграмай тэму матэрыял. А яшчэ лепей серыя лекцый, якая складала б з часам завершаны курс па праграме таго ці іншага, гэта значыць 9-га, 10-га альбо 11-га класа сярэдняй школы. Менавіта таму часопіс "Всемирная литература" распачаў новую рубрыку "Сусветная мастацкая культура". У дапамогу выкладчыку". У № 11 за гэты год друкуецца нарыс "Смалянкі" Дзмітрыя Лявіцкага — люстра екацярынінскай эпохі". У дванаццатым нумары — "Вобраз жанчыны ў сусветным выяўленчым мастацтве". Аўтар нарысаў Таццяна Кенька — супрацоўнік бібліятэкі і адначасова школьны настаўнік: яна ўжо не адзін год выкладае "сусветную культуру". З 1999 года Т. Кенька піша для часопіса "Бібліятэка прапануе" аглядальныя артыкулы па курсу "Сусветная мастацкая культура", якія атрымалі ў школе заслужанае прызнанне. Публікацыі "Всемирной литературы" не будуць, зразумела, паўторам артыкулаў з бібліятэчнага выдання. А для школьнага настаўніка, як нам уяўляецца гэты, шмат у чым новы курс "Сусветнай мастацкай культуры" будзе зручны яшчэ і тым, што настаўнік атрымае адначасова цікавы часопіс, які друкуе якасную літаратуру пад дэвізам "усе жанры, акрамя нуднага", і можа пры неабходнасці выкарыстаць у сваёй працы дадатковую інфармацыю, запазычаную з іншых публікацый часопіса.

Што ж, пажадаем "Всемирной литературе" ў яе высакароднай і важнай справе — дапамога школе — поспехаў. Нам жа застаецца цяпер толькі і сачыць за часопісам і яго новай рубрыкай "Сусветная мастацкая культура".

**Галіна НАПОЛАВА**

## ВЯРНУЦЦА ДА КАРАНЁЎ

У Пінску зноў адбылася прэзентацыя. Гэтым разам ужо трэцяй кніжкі вершаў небезвядомага на Піншчыне лірыка Мікалая Лаўровіча "Поздние звезды".

Калі першыя дзве — "Берег памяти" ды "Вечерние колокола" падаліся ў свет з выдавецкага дома С. Лаўрова, што ў Брэсце, дык вышэйпамянёную здзейсніла КУП "Пінская рэгіянальная друкарня". Ва унісон паэтычным зборнікам адбыліся і іхнія прэзентацыі. Калі папярэднія ладзіліся ў "Гасцёўні" цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Я. Янішчыц, то гэтая — у галоўнай чытальні горада. Аднак хацелася б паведаміць і пра тое, што па ініцыятыве паэта і перакладчыка Эдуарда Абрамава адбыліся прэзентацыі ўсіх трох кніжак Мікалая Лаўровіча і ў Феадасійскім літаратурным аб'яднанні "Кіммерыя". А ў газеце "Элегія", таго ж аб'яднання, аўтар пададзены нізкаю вершаў.

Мікалай Аляксандравіч Лаўровіч родам з Наваградчыны. "З Міцкевіча мясцін!" Менавіта гэтак вызначае ён сябе ў гутарцы з сябрамі і калегамі па паэтычным цэху. Дарэчы, вучань касадворскай школы адукаваўся і гарэзіў разам з літаратуразнаўцам і празаікам Яўгенам Лецкам. Аб іхніх дзіцячых свавольствах М. Лаўровіч успамінае з непадробным гумарам. Затым, як сцвярджае сам паэт: "Выпадкова стаў вайскоўцам". Зараз ён — падпалкоўнік у адстаўцы. А напамінам пра мінулае — геаграфія: Далёкі Усход, Львоў з Прыкарпаццем, Чэхаславакія, Туркестан. "Я продолжал и там писать стихи", — запэўнівае чытачоў аўтар.

Разам са Словам, што аднойчы азорвае душу, вяртаецца паэт да крэўнасці, да каранёў радаслоўнасці. Магчыма таму, ці не ў кожным творы трэцяга зборніка Лаўровіча адчуваеш (ледзь не фізічна) яго неад'емную повязь з маці, з Радзімай:

*Что мне время?*
*Что — седины?*
*Среди судеб есть моя.*
*Здесь мои шумят рябины.*
*Пацаном сажал их я.*

Анатоль ШУШКО

## "ВОЖЫК" — З НАРОДАМ!

Нядаўна па ініцыятыве прафкама Мінскага вытворчага аб'яднання "Атлант" на славутым прадпрыемстве — заводзе халадзільнікаў, адбылася сустрэча супрацоўнікаў рэдакцыі часопіса сатыры і гумару "Вожык" і яе аўтараў з рабочымі і служачымі. Перад прадстаўнікамі "Атланта" выступілі галоўны рэдактар "Вожыка" Алесь Пісьмянкоў, намеснік галоўнага рэдактара Анатоль Зэкаў, загадчык мастацкага аддзела Іван Бокі, пісьменнік і перакладчык Валерый Стралко і іншыя. Вялікую цікавасць прысутных выклікалі не толькі экскурсы ў гісторыю "Вожыка" і творы, якія чыталі іхнія аўтары, але і наладжаная рэдакцыяй выстава карыкатур.

— Дзякуй за сустрэчу! — шчыра казалі рабочыя і інжынеры завода халадзільнікаў на развітанне. — Будзем выпісваць, купляць і чытаць "Вожык" — самы вясёлы часопіс.

Уладысь ЦВЯТКОЎ

## ТРЭЦІ З ПЯТНАЦЦАЦІ

"Cantemus" — хор знаны, хаця і малады. Нядаўна ён замацаваў свой замежны поспех, пабываўшы на XXXV Міжнародным харавым конкурсе ў Іспаніі, у горадзе Талоса. Спаборнічалі тут 15 калектываў — пасланцы Беларусі, Германіі, Ісландыі, Латвіі, Расіі, Славеніі, Швецыі, Японіі ды іншых краін. Гран-пры атрымаў хор з Латвіі "Balsis".

Мінскі маладзёжны камерны хор "Cantemus" пад кіраўніцтвам выкладчыка Беларускай акадэміі музыкі Інесы Бадзякі стаў лаўрэатам 3-й прэміі. "Cantemus", у складзе якога выпускнікі БАМ ды іншых сталічных ВНУ, не толькі выступіў у конкурсе, а і даў канцэрты ў шэрагу баскскіх гарадоў.

Н. К.

## Ніна МАЕЎСКАЯ



●

*Я не чакала пабачыць*
*Вачэй пакутлівы сполах.*
*Я не хацела пабачыць...*
*Нават па жыце прайшоў*
*ціхі шолах.*
*Хацелася стрэцца інačай.*
*Іначай...*
*А ўрэшце, лічы пражыта*
*Жыцця — найлепшая, можа —*
*палова...*
*І шэпчацца жыта,*
*Так шэпчацца жыта!*
*А ты мне — ні слова,*
*Ні слова...*
*А што яшчэ скажаш?*
*Якія патрэбны тут словы?*
*Ці сэрцу прыкажаш?*
*Ці склічаш іх з нашай*
*багатае мовы*
*Для гэтай размовы,*
*Зусім непатрэбнай размовы.*
*Давай памаўчым.*
*А як штосьці*
*і ўспомніш,*
*Лічы, што прымроіў.*
*А жыта — бы промні,*
*з сонца і золата*
*промні,*
*А лета якое!*
*Ты помні мяне. Моўчкі помні.*
*І ведай — на свеце было толькі*
*двое.*
*Нас толькі двое.*

●

*Помніцца,*
*ранкам на белым акне*
*Вецер*
*фіранку паціху кране,*
*Потым надзьме,*
*нібы ветразь яе.*
*Высака й думкі*
*рвануцца мае.*
*Птушкай крылатай,*
*здаецца, лячу.*
*Мроі заносяць,*
*куды захачу.*
*Ветразь мой*
*поўны вялікіх надзей,*
*Свет —*
*незвычайна*
*надзейных людзей.*
*Тое ў шаснаццаць...*
*А сёння — ўжо не.*
*Штора цяжкая,*
*відаць, на акне?*

●

*Ці было калі так на вяку:*
*Неба — нібыта ў сакавіку.*
*І дзівосам няма ўжо мяжы:*
*Лістападаўскія капяжы...*
*Бэзу голькі нібыта ў маі,*
*Ужо раскрытымі дзюбкі трымаюць,*
*І на скрут галавы, мо аднекуль*
*здалёк*
*Адагрэты пад снегам ляціць*
*матылёк.*
*О Зіма, растлумачыць як гэта:*
*Ты сама павярнула на лета.*
*Захацела, быць можа, зірнуць,*
*Як дажджы залатыя ідуць.*
*І, канечне ж, вялікі падман —*
*Белы снежаньскі твой туман.*
*О, Зіма, не мані, не дзіві,*
*Свайго сына —*
*Марозку заві.*
*І не трэба, не трэба тугі,*
*Сып іскрыстыя ўволю снягі!*

●

*Я магла б нарадзіць*
*табе дзетак,*
*Крамяных, як пад хвоямі*
*баравікі,*
*Насадзіць цудадзейных кветак*
*У гародчыку каля ракі.*
*У ціхім доме,*
*які аканіцы*
*Заплюскае, як вейкі ўва сне,*
*Я магла б жыць —*
*няхай не царыцай,*
*Дык пастушкаю белых гусей.*
*Ты — царом быў бы тут.*
*Ці замала?*
*І бярозавы скіпетр*
*трымаў бы ў руцэ.*
*Я б цябе на сняданак чакала,*
*Пакуль рыбу ты вудзіш*
*у нашай рацэ.*
*Толькі тыя часы праміну́лі...*
*Новы век —*
*хуткасць, спрыт,*
*мітусня.*
*Дні ляцяць мігатліва,*
*бы кулі,*
*Ды й рэчку пакрыла брасня.*

●

*Гэтак было ўжо,*
*калісьці было.*
*Воблака ў небе,*
*як мара плыло.*
*Клёны лістоту*
*распавівалі.*
*Вабілі*
*сінія-сінія далі.*
*Можа, было гэта*
*ўсё ж не са мной.*
*То ж паўтараецца*
*кожнай вясной.*
*Кожнай вясной*
*ажывае надзея,*
*што жыцця пачынаецца*
*першая дзея.*
*Гэтая п'еса,*
*на жаль, гэтак хутка*
*ўсмешку хавае*
*ў цёплае футра.*
*Сэрца да болю*
*тады ледзянее:*
*што, калі гэта*
*апошняя дзея?*

## Андрэй КЛЮЧНІКАЎ

●

*Верасень скончаны, нібы згас.*
*Зорак не бачна высока ў нябёсах.*
*Танцуе мілая,*
*гэты вальс*
*Мяне ўзносіць крыламі лёсу.*

*Восень чакае дажджу. І да сна*
*Недзе далёка,*
*зусім не спіцца.*
*Танцуе мілая,*
*нібы вясна*
*Пасярод восеньскай навальніцы.*

●

*Не можа быць таго. Не можа.*
*Мяне кранула ноч рукою, —*
*Мне падарунак твой. Спакою*
*Адчуць ніхто не дапаможа.*

*Напэўна вецер нас турбуе,*
*Калі зрывае лісце з дрэваў.*
*Празрыстай вільгаццю,*
*напевам*
*Мяне з табою пачастуе.*

*Да мяне прыходзіць гора.*
*Яно светлае, як мора.*
*Яно чыстае, як неба.*
*Для мяне капае глебу.*

*Пра мяне пяе памінкі.*
*І па мне слязу пралье.*
*Пакладзе мяне*
*у скрынку*
*І шампанскага нальe.*
*Узрасту я белым светам,*
*І прыму салодкі пах.*
*Шчасце скажа:*
*"Быў паэтам,*
*А застаўся толькі прах".*

●

*Дзень зыходзіць.*
*Восень. Пачатак.*
*Верасень жоўты.*
*Верасень-Дэман,*
*(Зграбаю лісце*
*ў брудных пальчатках,*
*Бо добры вучань,*
*шукаю тэмы),*
*Дзе твой гонар?*
*Дзе твае дзеці?*
*Лісце трымаюць сухія рукі.*
*Пажоўклая цемра*
*чакае смерці.*
*Выйдзі насустрач.*
*Дзе твае ўнукі?*

## Васіль РАГАЎЦОЎ

●

*Адны*
*раілі насалодзіцца*
*ўсходам сонца,*
*каб спазнаў*
*таямніцу народзін;*
*другія —*
*навабіцца*
*заходам сонца,*
*каб адчуў непаўторнасць*
*расстання;*
*трэція —*
*любавацца паўночным ззяннем,*
*каб прычасціўся*
*подыхам вечнасці...*
*А я*
*цешуся дажджынкаю*
*на вейцы сваёй каханай*
*і наталяюся красою*
*імгнення.*

●

*Хвіліна маўчання*
*за жалобным сталом.*
*З мігценнем*
*заплаканай свечкі.*
*Трывожна і вусцішна...*
*Як перад чаканнем*
*дзіцяці,*
*што ўжо*
*не народзіцца.*

●

*Адзінокае вакно...*
*Палахліва мігае*
*(і ўжо каторую ноч)*
*святло незгасальнай свечкі.*
*Перад кволым*
*агеньчыкам*
*становіцца*
*нікчэмнай*
*гнятлівая цемра,*
*што,*
*як насланнё,*
*ахінае душу.*
*А ноччу адной*
*захліпнуўся агеньчык —*
*развітальнай*
*слязою матулі.*
*І толькі*
*да самага золаку*
*ў адзінокім акне*
*мігціць*
*сіратлівая зорка.*

# ПЯКУЧЫЯ РУЖЫ

АПАВЯДАННЕ

Наста ЛАЗЕБНАЯ



— Ой, дзяўчаткі мае дарагія! Вы не забыліся. Гэта мне? Не, прабачце, але такі дарагі падарунак я не вазьму. Ён жа машыны каштуе.

— На "Волгу" не цягне, не хвалюйся, Тамара. А што духі і касметыка з самой Францыі, можаш не сумнявацца. Учора мой Вадзім з Парыжа прыехаў. Гэта ў нас французскую парфюмерыю не купіць, а там жа дробязь. Хацелі мы з Зінаідай вечарам падарыць, за святочным сталом, з нагоды вашага срэбнага вяселля, але пагутарылі і вырашылі — цяпер. Вельмі ж хочацца, каб да прыходу гасцей ты макіяж зрабіла і была найпрыгажэйшай. Каб твой Сашка зірнуў на цябе і больш вачэй на адводзіў.

— Божачкі, ды чаго ж ты так стракочаш, Нэля, быццам страказа перад навальніцай? Я нават не ведаю, дзе той Сашка. З камандзіроўкі павінен быў прыехаць яшчэ ўчора. А яго і сёння няма. Ад частай дарогі ён так пастарэў, — сумным голасам прамовіла Тамара. Потым спахапілася і вінавата выгаварыла:

— Дзяўчаткі, прабачце! Во дурніца я. Усё пра мужа і пра мужа, а не дзякую за падарунак. Я так задаволена, каб вы толькі ведалі! Сама ўсё збіралася купіць. Ды дзе там! Хіба ж за аклад медыка можна? Дзякую.

— Карыстайся з задавальненнем, Тамара Міхайлаўна, — амаль у адзін голас пажадалі Нэля і Зінаіда. А праз нейкую хвіліну Нэля спытала:

— Тамара, зірні, колькі часу? Не паспееш спячы пірог. Ці ты ўжо нас не запрашаеш на вяселле?

— Што за размова? Чакаю ў шэсць вечара. Я ўжо, сябровачкі, бягу, бягу. Здыму вось халат, папярэджу загадчыцу паліклінікі і дадому.

Было роўна тры гадзіны дня, калі Тамара Міхайлаўна Сасноўская выйшла з паліклінікі. Стаяў звонкі сухі чэрвеньскі дзень, наліты водарам траў і кветак. Хоць парадавалі сяброўкі, але ж святочна-ўрачыстага настрою не адчувалася. Недзе глыбока ў душы калола, як іголкамі. А ўсё з-за Сашкі. Дзе яго бура носіць? Не здарылася б чаго. Аб дрэнным ці трагічным не хацелася думаць. Карцела хутчэй забегчы ў сваю аднапакаёўку і пачаць збірацца на стол. Мо, таму і кінулася да аўтобуснага прыпынку. Але на паўдарозе развярнулася і скіравалася на сцяжынку, якая касніком плялася ля дрэў і дамоў. Ішла хутка, амаль бегла пад лёгкі подых ветру і ціхае шапаценне кляновых лісточкаў. Дадому дабегла непрыкметна. Адчыніла дзверы кватэры і замерла на парозе.

На часопісным століку, у вялікай крышталёвай вазе гарэлі ружы.

Нябачныя языкі полымя разносілі па пакоі п'янка-рэзкі водар, ад якога пачынала кружляць галава і пашчыпваць у грудзях.

— Дзякуй, любы, дзякуй, родны! Які ты рамантык! Як добра, што ты ўсе гэтыя 25 год побач. Такі сюрпрыз! Такі падарунак! — не ўнімалася Тамара, усё ловячы пах руж і тонкімі дрыготкімі пальцамі дакранаючыся да чырвонапялёсткавага агню. Яна б, пэўна, стаяла да вечара, каб не сяброўкі, якія збіраліся да яе ў госці і для якіх жанчына павінна была прыгатаваць не толькі закуску, але і пірог. У апошні раз ахапіла дабрадушна-замілаваным позіркам кветкі і скіравалася на кухню, на хаду накідваючы халат.

Падышла да халадзільніка — дастала прадукты, адчыніла балкон, каб з яго ўнесці гародніну, але пачула пранізліва-капрызны плач дзіцяці. Зірнула са свайго сёмага паверху ўніз і заўважыла пяцігадовую Анютку, якая моцна крычала, і бабулю, цыбатую нязграбную суседку, што кручком вісела над малой.

— Зноў дзяўчынка штосьці выпрошвае, — падумала, а погляд, быццам сонечны зайка, пераскочыў на вугал дома, які стаяў метраў за сто ад іх дзевяціпавярхоўкі, з-за якога толькі што паказалася да болю знаёмая постаць мужа. Тамара мацней піяўкі прыліпла позіркам да стомленага Сашкі, які з цяжкасцю перастаўляў раскірэчаныя, быццам ад доўгай верхавой язды, ногі. Прайшоў метраў з трыццаць — спыніўся. Зірнуў на дом збоку і камусьці памахаў рукой, задаволена і шчыра ўсміхаючыся.

— Каму ён так скаліць зубы? — раздражнёна, з шыпеннем выціснула кожнае слова. І, у момант забыўшыся пра Сашку, яна, што тая драпежніца, пачала шукаць таго, каму махаў муж. Спярша Тамара "прастрэліла" вачыма адзін рад вокнаў — безвынікова, другі — тая ж карціна. І толькі ў трэці заход убачыла на балконе, сярод кветак, дзяўчыну ў блакітным халаце, з-пад якога выглядалі сакавітыя пульхныя грудзі. Дзяўчына не звяртала ўвагі на вецер, які расхрыстваў халат. Яна здзьмухвала паветраныя пацалункі Тамарынаму мужу і залівалася смехам. Так мог паводзіць сябе толькі закаханы чалавек. Тамара гэта ведала добра. Яна яшчэ раз зірнула на Сашку, які ўсё стаяў, і ў яе вачах памутнела. Жанчына прысела на нейкі мяшок, тупа гледзячы ў куток балкона. Вярнуў да жыцця званок — працяглы і здзеклівы...

— Тамара Міхайлаўна! Ты яшчэ працуеш? — узрадавана прамовіла Нэля Іванаўна, зачыняючы за сабой дзверы кабінета загадчыцы тэрапеўтычнага аддзялення.

— Хочаш дапамагчы? Сядай. І табе работы хопіць.

— Не. Хачу, каб ты мне дапамагла, —прамовіла Нэля. — Зараз у мяне ідзе прыём хворых, пасля яго — бегчы да пацыентаў дамоў. А мне брата неабходна сустрэць. Праездам будзе ў горадзе. Мо выручыш, сходзіш на мой участак?

— Дамовіліся. Дапамагу. Толькі адрасы дай. А то ненарокам знясеш.

— Калі ласка. Вось Сідарэнка Вольга Іванаўна — 70 год. Высокі ціск. За месяц, які я на 41 участку, гэта ўжо шосты выклік. А гэтай жанчыне 35. Рушчанкова Ірына. Відаць, прастуда.

— І ўсе?

— Усе, усе...

— Раз усе, тады бяжы на прыём. Не тапчыся ў парозе. Хворыя людзі капрызлівыя — пад кабінетам лямантаваць пачнуць. І не хвалюйся. Я нават зараз пайду і да Вольгі Іванаўны, і да Ірыны. А потым зазірну ва універмаг. Дамоў усё роўна не хочацца ісці. Сашка зноў з'ехаў у камандзіроўку. Ужо другі тыдзень у Гомелі, а мо ў гамяльчанкі...

Знаходзіцца ў чатырох сценах не вельмі прыемна. Нікому не казала, а табе адкрыюся — я стала баяцца сваёй кватэры. Здаецца, у кожным куточку сядзіць здрада і заліваецца смехам. А віной, канечне, яна і тое чорна-срэбнае вяселле. Ведаеш, ужо некалькі месяцаў прабегла, а ў маёй душы ўсё тыя ж глыбокія раны, шырокія — не пераскочыць. Не загойваюцца, а ўсё крывяточаць і ныюць. Тады Сашка прабачэння прасіў. Кляўся, што выпадкова да маладзіцы трапіў. А нядаўна расказваў, што яна пераехала ў іншы горад. Праўда гэта ці не, не ведаю, не правярала. Але ведаеш, веры няма. Памерла вера ў Сашкіна каханне... — і заціхла. Потым, быццам выблытаўшыся з цяжкіх успамінаў і разважанняў, Тамара Міхайлаўна звярнулася да сяброўкі:

— Ну, што стаіш, уталопіла вочы? Ты і так усё ведаеш. Бяжы ў кабінет. І я пайду на выклікі.

Халодны паўночны вецер шалёна насіўся паміж дамоў у пошуках ахвяры для здзекаў, калі Тамара Міхайлаўна выйшла з паліклінікі. Не знаходзячы нікога на сваім шляху, вецер налятаў на дрэвы і тармасіў, ірваў лапікамі іх жоўта-зялёныя сукенкі, раздзіраў на шматкі аксамітавыя фрэнчы і кідаў, кідаў іх на зямлю.

Тамара любіла восень. Часам ціхую, часам дажджлівую, а часам і ветраную. Ішла жанчына моўчкі. Нават думкі не вельмі даймалі доктара. Спяшалася да бабулі.

Дом, дзе жыла старая, знайшла адразу. Пазваніла. Да дзвярэй ніхто не падыходзіў, хоць стаяла хвілін пяць. Занепакоілася. І чорная думка прамільгнула, што тая хваля; а ці жывая Вольга Іванаўна? Больш не трацячы ні хвіліны, Тамара Міхайлаўна сама штурханула дзверы, якія былі не зачынены на замок. Зайшла ў кватэру. Бабуля сядзела на канапе нерухома. Тамара Міхайлаўна ўзяла яе руку і пачала шукаць пульс.

— Ого-о-о, Вольга Іванаўна, вас трэба адправіць у бальніцу, — сказала доктар, — і як мага хутчэй! Я вызаву "хуткую" — і пачала набіраць лічбы на тэлефоне.

Здаецца, доўга і не бавілася, "хуткая" прыехала хвілін праз дваццаць, а на двары сцямнела. Ішла па тратуары да другой хворай, якая жыла на Тамарынай вуліцы, падкідваючы нагамі восеньскую медзяную лістоту, якая звінела і шуршэла бясконца. Над галавой віселі чорныя хмары, падобныя на збіты лямец, ды так нізка, што здавалася — наляціць на яго вецер, пачне валтузіць, і зваліцца ён на зямлю і назаўсёды схавае пад сваім цяжарам дамы, дрэвы і яе, Тамару. Ад такога прадчування зрабілася не па сабе. Аж у душы штосьці перавярнулася. Пазбавіцца ад сумных думак — значыць, заняць галаву іншым. Напрыклад, жаданнем хутчэй знайсці кватэру Ірыны Рушчанковай і дапамагчы жанчыне. Мо, таму і прыбавіла крок.

Тамара Міхайлаўна ўжо ішла па сваёй вуліцы. Засталося пераадолець невялічкі ўзгорак, і дамы яе і пацыенткі будуць як на далоні. Не прайшло і пяці хвілін, як доктарка стаяла перад дзвярыма Ірыны. На званок выйшла жанчына гадоў трыццаці. Невысокая, з кароткай сучаснай стрыжкай, у прасторным модным халаце, быццам пад ім штосьці хавала ці берагла.

Запрасіла прайсці ў пакой, прайшла сама і стала, як укапаная. Толькі акругленыя вялікія вочы з бурштынавым агнём у сярэдзіне выдавалі яе сполах, разгубленасць і нават страх.

"Чаму яна так глядзіць? — падумала Тамара Міхайлаўна і больш уважліва пачала сама вывучаць хворую. Яна глядзела на пацыентку ўчэпіста і з павялічанай цікаўнасцю. "Дзе я магла яе бачыць, дзе?" — біла ў скроні пытанне. І раптам у памяці ўсплыло: дзяўчына, Сашка, паветраныя пацалункі. "Дык вось, хто гэта!.." — ледзь не выкрыкнула, але стрымалася. Нават пастаралася ўсміхнуцца, ды замест шчырай, прабачальнай усмешкі на яе вуснах застыў боль, які вырваўся з сярэдзіны і пекануў да чарнаты. Стаялі так некалькі хвілін. Пераадольваючы боль, першай загаварыла доктарка.

— Што непакоіць Ірыну?

— Вось каторы дзень тэмпература. І нудзіць мяне... — ціха пачала расказваць Ірына, не адводзячы напружана-насцярожанага позірку з дзвярэй.

— Давайце праверым ціск. А вы прысядзьце, — папрасіла Тамара Міхайлаўна, як мага лагодней і дастала танометр. Змерала. Ніякіх адхіленняў. Горла таксама без змяненняў. Хіба што толькі чырвоныя дужкі. Паслухала лёгкія. У іх не хрыпела. Але чаму яе нудзіць?

— А вы часам не цяжарная? — раптам спытала.

— Так. Ужо тры месяцы, — радасным голасам паведаміла жанчына. Нічога не сказаўшы, Тамара Міхайлаўна дастала з сумкі рэцэпт і пачала пісаць. Нечакана хтосьці адкрыў дзверы і зайшоў у прыхожую. Зняў абутак і гучна, на ўсю кватэру, пракрычаў:

— Любая, як ты? Доктар быў?

Тамара Міхайлаўна сціснула дыханне. Яе рука замерла. Але праз момант жанчына ўстрапянулася так, быццам па ёй прапусцілі электрычны зарад. Рэзка паднялася з канапы, калі перад сабой убачыла... мужа, які ў руках трымаў ахапак жоўтых руж.

Тамара Міхайлаўна зірнула на Ірыну, на Сашку і замест папрокаў і крыкаў, зарагатала — аглушальна-з'едліва. Потым, відаць, не памятаючы, што робіць, схапіла аберуч паліто, сумку і выскачыла на лесвічную пляцоўку. Бегла на першы паверх, амаль не дакранаючыся да прыступак — уцякала ні то ад забойцаў, ні то ад злачынцаў.

Калі на вуліцы ўдыхнула студзёнага ветру, які абпаліў усё нутро, спынілася, апранула паліто. Пастаяла з хвіліну, паглядзела па баках і, ціха перастаўляючы ногі, накіравалася ў школьны скверык. Села на першую ж лаўку і дала волю слязам. Плакала доўга, не звяртаючы ні на кога ўвагі. Потым сціснулася, шчыльней загарнула крысо паліто і зажмурыла вочы. Ці то заснула, ці то забылася — невядома. Адплюшчыла вочы ад цёплага і шурпатага дотыку. Над ёй стаяла аўчарка. А да іх падыходзіў высокі мужчына сярэдніх год...

зычны кіраўнік і дырыжор-пастаноўшчык Глеб Аляксандраў, балетмайстар Лілія Харламава, хормайстар Нона Палявая, канцэртмайстры Валерый Крыштопенка і Дар'я Захарава, педагог-вакаліст Валянціна Міціна (яна ж выконвае ролю адной з галоўных кошак), а таксама аркестр "Рычэркар-96". Артысты — Іна Круцько, Таня Кохан, Наста Цывенка, Лена Кугатава, Каця Папко, Маша Сцепаненка, Анатоль Гавура, Юрый Сакалоў, Іван Разумаў, Віктар Жывіцкі ды іншыя "кошкі" не падаліся ні шэрымі, ні шарачковымі. Адмысловыя стракатыя апранахі, дасціпны трапны грым, характэрная пластыка, выразны вакал, дакладная дыкцыя (тут прыемна ўразіў нават хор). Што ні персанаж – то свая прыгажосць, індывідуальнае аблічча, свой голас і свой нораў. І калі ў вядомай амерыканскай відэаверсіі мюзікла адны выканаўцы іграюць ролі як драматычныя акцёры, другія — спяваюць за тых жа персанажаў, трэція танцуюць, а трукі выконваюць чацвёртыя, дык у мінскіх "Кошках" юныя таленавітыя энтузіясты ўсё робяць самі!

Гарачыя глядацкія авацыі — лепшы стымул для новых рэпертуарных пошукаў і творчага росту "Казкі". Вось каб яшчэ наш адзіны дзіцячы музычны тэатр папоўніў свой рэпертуар арыгінальнымі беларускімі творамі — мажліва, мадэрнізаваўшы тое, што ўжо створана айчыннымі кампазітарамі ў розныя часы, а мажліва – папрацаваўшы з новымі аўтарамі. Але на рытарычным "вось каб" спектакль не паставіш: нічога не будзе без канкрэтнага дзяржаўнага заказу на адпаведны рэпертуар. Калі дзяржава падтрымае адзіны на Беларусі дзіцячы музычны тэатр, а заадно заахвоціць і студыі, і ўсе "дарослыя" тэатральныя трупы, якія працуюць на ідэю духоўна-эстэтычнага, культурнага выхавання новай генерацыі беларускага грамадства, тады... Тады вырашацца пэўныя старыя праблемы, з'явяцца новыя, і мы працягнем размову.



С.БЕРАСЦЕНЬ

*Фота М.ЗАМУЛЕВІЧА*

каны і арыгінальны рэпертуар. Спрактыкаваны кампазітар, тонкі інтэрпрэтатар лірычнай паэзіі, Марозава многія гады працуе ў жанры раманса, мае шмат набыткаў у гэтай галіне творчасці. На беларускай "Рамансіядзе" М. Філіпава прадставіла два рамансы М. Марозавай — "Моленье свеч" (на словы І. Ждановіча) і "Души ожиданье" (на словы Т. Мушынскай).

У нязвыкласці рэпертуару (аўтарскі, сучасны, а не класічны раманс) была свая рызыка, і немалая, але, напэўна, была і зарука перамогі. Журы высока ацаніла і абаяльнасць маладой спявачкі, яе сцэнічнасць, прыгажосць голасу, шчырасць, глыбіню разумення музычнага вобраза. Як вынік — дыплом 3-яй ступені...

Калі вынікі вакальнага спаборніцтва былі падведзены і абвешчаны, да маладой спявачкі падышоў Зураб Соткілава, артыст, які выступаў на самых праслаўленых оперных і канцэртных сцэнах свету: (Кажуць, менавіта ягоная творчая падтрымка дапамагла ў свой час нашай спявачцы Марыі Гулегінай трапіць на оперны Алімп). Соткілава павіншаваў Марыну з перамогай і зазначыў, што ў яе ўсё ёсць: і голас, і артыстызм, і знешняе аблічча, і рэпертуар...

Трэба дадаць, што нарадзілася Марына Філіпава на Віцебшчыне, яе бацькі і цяпер жывуць у Мёрах. Марынін бацька — не прафесійны музыкант. Але вельмі добра спявае, мае добры голас, і, відаць, ягонае захапленне спевамі перадалося дачцэ. Яшчэ ў юнацкім узросце М. Філіпава стала пераможцай конкурсу патрыятычнай песні ў Віцебску; некалькі гадоў была салісткай Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра эстрады.

Адразу дзве творчыя перамогі Марыны Філіпавай, дый такія значныя, бясспрэчныя, не могуць не радаваць. І прыхільнікаў таленту гэтай абаяльнай дзяўчыны, якую называюць пралескай беларускай эстрады, і наогул прыхільнікаў сучаснай беларускай музыкі. Міжволі думаецца, што гэта толькі пачатак узыходжання Марыны на творчы Алімп.

Т. МІХАЙЛАВА

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

ПОДЖА БРАЧАЛІНІ

# СА ЗБОРНІКА "КНІГА ФАЦЭЦІЙ"



***Поджа Брачаліні (1380 — 1459) – італьянскі пісьменнік-гуманіст, палітычны дзеяч, выдатны філолаг, які збіраў лацінскія рукапісы і знайшоў некаторыя лісты і трактаты Цыцэрона, творы Квінтыліяна, Стацыя, Лукрэцыя. Брачаліні з'яўляецца аўтарам філасофскіх трактатаў у дыялогах, твораў на этычныя тэмы, "Гісторыі Фларэнцыі"(з 1385 па 1455 гг.) і зборніка "Кніга фацэцій". Лічыцца, што менавіта ён увёў у шырокі літаратурны ўжытак фацэцыю – кароткае апавяданне, блізкае да анекдота, пра смешны і павучальны выпадак з жыцця. Некалькі прыкладаў прапануем беларускаму чытачу.***

III

## Пра Банача дэ'Гуашы, які позна ўставаў з пасцелі

Банача дэ'Гуашы, вясёлы юнак, падчас нашага знаходжання ў Кастанцы заўсёды позна ўставаў з пасцелі. І калі сябры папракалі яго за ляноту і пыталіся, што ён робіць у пасцелі да такой пары, той, усміхаючыся, адказваў: "Выслухоўваю цяжбу двух бакоў. Ураніцы, калі прачынаюся, побач з маім ложкам стаяць дзве асобы: рупнасць і лянота. Першая заклікае ўставаць, рупіцца, а не качацца днём на ложку. Другая ж наадварот: яе аспрэчвае і раіць мне яшчэ паляжаць у пасцелі, бо на двары холадна і лепей заставацца ў цяпле; яна сцвярджае, што ўвесь час працаваць нельга, целу патрэбен адпачынак. Ды рупнасць настойвае на сваім... Спрэчка-сварка між імі цягнецца доўга, а я, бесстаронні суддзя, не схіляюся загадзя ні да аднаго з бакоў і выслухоўваю абодва, чакаю, калі спрэчка сама скончыцца. Таму і ўстаю позна".

XXVI

## Пра абата з Сэціма

Абат з Сэціма, чалавек важны, тоўсты, ішоў неяк вечарам у Фларэнцыю і па дарозе запытаў у селяніна, праз якую браму ён зможа прайсці. Абат меў на ўвазе, якая з гарадскіх брам на той час яшчэ адчынена, а мужык, гледзячы на тоўстага абата, іранічна адказаў: "Там, дзе воз сена праходзіць, думаю, і вы зможаце прайсці".

LVI

## Бліскучы адказ Дантэ, фларэнційскага паэта

Дантэ Аліг'еры, фларэнційскі наш паэт, некаторы час меў прытулак у Вероне, пры двары Кан'дэлла Скала, вельмі шчодрага прынца. А сярод світы прынца былі подлы, ганарысты ды неадукаваны фларэнціец, якога таксама звалі Канэ. Гэта чалавек не здатны ні на што іншае, акрамя як строіць кепікі, смяяцца і расказваць глупствы – быццам бы анекдоты, — забаўляючы прынца, за што атрымліваў неблагія падарункі.

Дантэ ж, чалавек высокаадукаваны і сціплы не менш, чым разумны, натуральна, пагарджаў ім як неразумнай істотай. І вось неяк той фларэнціец запытаў у яго:

— Як гэта сталася, што ты, каго лічаць надзвычай мудрым і вучоным, такі мізэрны і бедны?! А я, без мудрасці і навукі, багаты.

На што Дантэ яму адказаў:

— Калі я знайду сабе багацея-ўладара, які будзе падобны да мяне ва ўсім – ты ж сабе такога ўжо знайшоў, — ён зробіць мяне багатым.

Важкі і разумны адказ! Таму што ўладары звычайна прыхільныя да сябе падобных.

LIX

## Пра чалавека, які шукаў цела сваёй жонкі-тапеліцы

Чалавек, жонка якога патанула ў рацэ, пайшоў супраць цячэння шукаць яе цела. Другі чалавек, убачыўшы гэта, вельмі здзівіўся і параіў яму ісці па цячэнні.

А ў адказ пачуў:

— Ды я гэтак яе не знайду, бо пры жыцці яна заўжды ішла насуперак, рабіла ўсё наадварот у параўнанні з іншымі, і вельмі ж упартая была. Так што, напэўна, жонка мая пасля смерці таксама паплыла супраць цячэння.

CXIX

## Пра таго, хто намерыўся патраціць тысячу фларынаў, каб стаць слынным, і параду яму

Малады і не надта разумны фларэнціец паведаміў сябру, што намерыўся аб'ехаць увесь свет і патраціць тысячу фларынаў, каб стаць слынным.

Сябар, які вельмі добра яго ведаў, параіў:

— Патраць лепш дзве тысячы, каб цябе зусім ніхто не ведаў.

CXXXIII

## Пра аматара выпіць

У аднаго вядомага аматара вінапіцця ўзнялася тэмпература, з-за чаго моцна пачала даймаць смага.

Сабраліся дактары і пачалі раіцца, як знізіць тэмпературу і пазбавіць хворага смагі.

— Ведаеце што? — азваўся хворы. — Вы паклапаціцеся толькі пра тэмпературу. А што да смагі, гэта ўжо мая справа.

Пераклад з італьянскай мовы Уладзіміра ЧАРОТЫ

# ГЕРБ АДНАВІЛІ...

Сесія Лідскага гарадскога Савета дэпутатаў разгледзела пытанне аб гістарычным сімвале — гербе горада. Першым пунктам прынятага рашэння запісана: "Герб города Лида утвердить". На маю думку слова "утвердить" не адпавядае сутнасці пытання. Мяркую, што тут больш падышло б "адрадзіць" альбо "аднавіць".

Гораду Ліда герб быў нададзены разам з Магдэбурскім правам 17 верасня 1569 года. Па змесце ён спалучаў у сабе штучнае значэнне (леў) і абарончае (два перакрыжаваныя ключы). Герб існаваў і ўжываўся ў гарадскім жыцці больш за два стагоддзі. У канцы XVIII ст., пасля апошняга трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, Заходняя Беларусь аказалася ў складзе Расійскай імперыі. Імператрыца Кацярына II выдала Указ аб скасаванні існуючых гарадскіх гербаў і аб замене іх новымі. Пачалася кампанія скасавання гістарычных гарадскіх сімвалаў. У аснове стварэння новых гербаў гарадоў былі пакладзены Указ Пятра I і яго Геральдычнае палажэнне, у адным з параграфаў якога гаварылася: "Городу иметь герб и использовать его во всех городских делах".

Згодна з "Палажэннем" герб уезнага (паветовага) горада павінен быў складацца з дзвюх частак: верхняй — губернскі герб і ніжні — уласны герб горада. Ліда атрымала свой герб 9 мая 1845 года. Па Геральдычным палажэнні ён меў наступны выгляд: у верхняй частцы на чырвоным полі "коннік", а ўнізе — на зялёным полі, снoп жыта з сярпом упоперак яго, як знак таго, што жыхары Ліды займаліся пераважна земляробствам.

З аднаго боку шкада, што геральдыст не бываў на месцы, не вывучыў дастаткова гісторыю горада, ад таго і беднасць думкі. Ва ўсім уездзе і горадзе з багатай гісторыяй і традыцыямі ён не знайшоў больш змястоўнага і адпавядаючага сімвала, абмежаваўшыся канстатацыяй земляробства, якое ў той час было звычайнай з'явай у кожным горадзе і ўездзе.

З другога боку сапраўды, амаль да пачатку XX стагоддзя асноўным заняткам лідчан была сельская гаспадарка.




Гэты герб Ліды захоўваўся аж да канца Першай сусветнай вайны. Пасля падпісання 18 сакавіка 1921 года Рыжскай мірнай дамовы паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, Ліда адыходзіць да Польшчы. Польскія мясцовыя ўлады аднаўляюць першы сярэдневяковы герб Ліды. Ён займае сваё пачэснае месца ва ўсіх справах горада. Яго выява адлюстроўваецца на пячатках гарадскіх і мясцовых устаноў.

Дзіўнае супадзенне, 17 верасня стала для герба Ліды лёсавызначальным. 17 верасня 1569 года ён быў нададзены гораду, а праз 370 гадоў — 17 верасня 1939 года — адышоў у нябыццё. Можа, на гэты раз 17 нумар сесіі гарадскога Савета, якая аднавіла дзеянне герба, будзе больш спрыяльным для яго і для нас.

Анатоль КУЛЕШ

# ЗЛОЕ ВОКА — ЗЛОЕ СЭРЦА

Іван ШАМЯКІН

## 1

Ганю каровы дадому — для дзённага даення. За гародам бяжыць мне насустрач запыханы брат мой Павел.

— Матка сказала: не гані. Патрымай тут.

— Чаму?

— У нас сядзіць Гапка.

Лёгка сказаць "не гані" — на дойку каровы самі бягуць: ад духаты лясной, камароў — у хлеў, у прахалоду. Быў неверагодны выпадак: першацёлка Рабуня неслася дадому як апантаная, не стрымаць. А пачне маці даіць яе — няма малака, пустое вымя. Як замова нейкая, маці так і лічыла. А бацька мой чалавек быў практычны: сеў у кутку хлява і падгледзіў, хто доіць Рабуню. Не нячыстая сіла, як лічыла маці, а... звычайны вуж. Ён высмоктваў малако, і яго "даенне" карове больш падабалася, чым мазолістыя шурпатыя рукі лясніchых. Забіў бацька вужа. Прыгода была на тры бліжэйшыя вёскі — Краўцоўку, Дзікалаўку, Гуту. Легенды хадзілі.

Рабуня дні тры памукала, пабрыкалася — удвух, маці і бацька, даілі; малако яе доўга не пілі, свінням вылівалі.

А Гапка... Гапку гэтую таксама далёка ведалі. І слава ў яе была дрэнная: чараўніца. Калі статак вяртаўся з пашы, суседзі праганялі Гапку з уласнай прызбы: не сядзі, не глядзі! Бо нават калі пахваліць "Во вымя налілося!", у каровы знікае малако.

Да бацькі майго яна прыходзіла часта — прасіла дровы. Але каня ў яе не было, яна прасіла, каб ляснік сам падкінуў ёй бярэмечка, часта ж праязджае міма яе хаты на парожнім возе.

Але зараджаючы Паўлаў неяк вельмі ж нядобра рагатнуў.

— У рай хочаш, Грышка? Сотка разнясе цябе так, што абшмоткі твае і Бог не збярэ.

— Разгаворчыкі! — бадай злосна крыкнуў я на Паўлава.

— А пайшоў ты, малодшы... — паслаў ён мяне ў ... Гакнуў што бомбай.

Каб хто з нас, курсантаў, паслаў так свайго камандзіра — "губа" дакладная. А то і трыбунал. Але тое ў мірны час, у мірнай вучобе, і камандзіры разлікаў — Цернавы, Зашкарук, Мельнічук — старшыя сяржанты. А тут вайна, і я ўсяго малодшы сяржант і камандзір учора спечаны. Паўлаў яфрэйтар, розніца ў адну лычку, і мне сказалі, што мой зараджаючы лепшы на батарэі. А я пайду скардзіцца на падначаленага. Пасля першага боя. А бой — вось ён, набліжаецца. Голас дальнемершчыка:

— Цэль злоўлена.

На гармаце затрымцела стрэлка паказчыка дыстанцыі. Лічбы пачаў выкрыкваць чытальнік "трубкі". Устаноўшчыкі, двое, трымаючы снарады, зацiснуўшы паміж ног, ключамі паварочваюць колца з лічбамі дыстанцыі. Адлік ідзе назад — ад большага да меншага. Але равуна пакуль што няма: вораг яшчэ далёка. ПУАЗА (Прыбор упраўлення артылерыйскім зенітным агнём) апрацуе даныя дальнямера, кіламетры і метры — у лічбы на трубках і, калі будзе сумяшчэнне, дасць сігнал гарматам. І тут усё залежала ад хуткасці. Дакладна і хутка спрацуюць прыборшчыкі, гарматнікі — бліжэй снарад разарвецца ад варожага самалёта, больш верагоднасці, што нейкія асколкі ад чатырох снарадаў — залпа батарэі — падаб'юць варожую машыну.

Рабію ён гэта, здавалася, бясконца — у зямлянцы. Ад чаго яго пучыла? Ад "бландзінкі" (прасянкі) і салёнай траскі?

Наводчык Лысуха — ціхоня, але і гумарыст, і вялікі манюка, расказваў цікавыя прыгоды накшталт Гогалеўскіх, якія напэўна сачыняў сам. Звычайна гаварыў па-руску, а распавядаў на ўкраінскай мове, атрымоўвалася вельмі каларытна. Дык вось ён, Іван Лысуха, калі Паўлаў адлучаўся — лячыў у санінструктара скулы (на фурункулёз хварэла палавіна батарэйцаў), пачаў падбіваць разлік на змову супраць Паўлава: каб правучыць яго, накрыць "цёмную", так правучвалі задавак, нахабнікаў, чалавеканенавіснікаў у вёсцы; памагала, харашэлі хуліганы, пачыналі паважаць людзей.

Прывабная ідэя. Але мне, гуманісту, яна не падабалася: шасцёра на аднаго!

— Ты, камандзір, можаш не ўдзельнічаць.

— У штрафную роту захацелі? Калі ён зарадзіць не здолее — літасці не будзе.

Адсталі мае хлопцы.

А Паўлаў псаваў паветра і рабіў розныя брыдкасці "чысцюлькам", "святошам", як ён называў Кошалева, мяне, Лысуху... За што ён не любіў нармальных людзей?

Паспрабаваў я гаварыць з камбатам, каб Паўлава адаслалі ў іншую часць. У таго вочы палезлі на лоб.

—Ты што, чокнуты? Лепшага зараджаючага! Хто яго заменіць? Манах Кошалеў?

І адаслалі Грышку. Нампаліт пастараўся! Ведаў яго набожнасць і баяўся; дойдзе да начальства — кіўнуць яму: не ўмее выхоўваць.

А я вельмі балюча перажыў адсылку Кошалева. Як брата страціў. Пасля вайны я, атэіст, жонцы не сказаў, як

Бацька мой у байкі пра яе чары не верыў, часам мацюкаўся і паказваў бабе дулю. Яна хрысцілася і, не сябе — яго. Маці ледзьве не млела ад страху і, каб улашчыць "дурное вока", частавала Гапку малаком, смятанай, гуркамі, нават цукрам, які і нам, дзецям, не часта давала. І прымушала бацьку завезці Гапцы дровы — каб улашчыць вядзьмарку. А дровы... Вунь іх колькі за зіму набіралася, шуркі паўз два платы, гатовых, папіленых: адбіралі ў парубшчыкаў, якія вазілі іх у Дабранку яўрэям на продаж. (Між іншым, гэта быў адзіны сялянскі заробак, пакуль меліся коні — да калгасаў.)

Калі я пайшоў у школу, то адразу паверыў настаўніцы Валянціне Андрэеўне, што ніякіх багоў няма, што ўсё гэта — забабоны цёмных людзей, гэта выдумалі багачы, каб рабы, прыгонныя, усе бедныя, баючыся багоў, гнулі спіны на іх, на багатых. І Гапкіна вядзьмарства — забабоны, выдумка.

Само сабой зразумела, што ў камсамольскім узросце я стаў перакананым атэістам. Бо ніхто і не спрабаваў пераканаць у адваротным. Нават у вялікім Гомелі, дзе я вучыўся, засталася (як ацалела?) адна маленькая царкоўка, у якую ніхто з нас, студэнтаў, не адважваўся зазірнуць, хоць цікавасць мелі.

Але быў выпадак, калі неяк вельмі ж нечакана і своеасабліва пахіснулася мая атэістычная перакананасць. У пачатку вайны.

Тыдні два-тры мы заставаліся на свaёй першай вучэбнай батарэі — абаранялі аэрадром у Мурмашах, Тулемскую ГЭС, па тым часе самую паўночную ў свеце — так пісалі тады, хоць цяпер я не веру, што ў амерыканцаў на Алясцы не было гідрастанцый.

Потым нас пачалі рассылаць каго куды — большасць у новыя дывізіёны і палкі, вайна вымушвала тэрмінова арганізоўваць іх, а навучаных зенітчыкаў не было (кавалерыстаў рыхтавалі!), а нас усё ж восем месяцаў вучылі, хоць баявымі ні разу не стралялі (я пісаў, у што гэта вылілася ў першы дзень вайны).

Мне пашанцавала: я застаўся ў сваім 33 асобным дывізіёне, дзе і праслужыў усю вайну. Мяне паслалі камандзірам гарматы на 2-ую батарэю, яна стаяла ў Мурманску на абароне парта — у цэнтры пекла.

Здаецца, першы дзень быў нялётны, і я пазнаёміўся са сваім разлікам. І, не будучы дурнем, зразумеў, што такой дысцыпліны, як у вучэбцы, якую трымаў мой камандзір Цернавы, тут няма, не было і быць не можа, асабліва ва ўмовах вайны. (Дарэчы, як змяніўся Цернавы ў першы ж дзень вайны, які добрым стаў — не пазнаць чалавека!)

Як і ў першы дзень вайны, "уначы" — у палярны дзень — зазвінела гільза: баявая трывога! Уміг займаем свае месцы. Чацвёрты нумар — высокі хударлявы хлапчына Рыгор Кошалеў, яраславец ці іванавец — моцна окаў. Яго "прафесія" — вугал узвышэння; высокі ростам, Рыгор стаяў на платформе бліжэй за ўсіх да жэрла ствала. А пушкі 76 калібру былі без глушыцеляў. Стрэлы першага дня Рыгора аглушылі. Вушы балелі.

Даклад разведчыка:

— Над чацвёртым пяць "юнкерсаў 87"!

Самыя брыдкія пачвары-пікіроўшчыкі!

Я не здзівіўся, што Кошалеў затыкае вушы ваткай. Але ён пачаў хрысціцца і шаптаць малітву. І гэта ўпершыню пахіснула маё цвёрдае бязбожжа. Не магу апісаць гэты раптоўны зрух у галаве, у сэрцы. Узнікла нейкая асаблівая павага да Кошалева, да яго веры ў Вышэйшую Сілу, якая можа ўратаваць ад смерці. Каб умеў, то і я, магчыма, прашаптаў бы словы малітвы ў той міг.

Трымаецца думка, што зенітчыкі, у адрозненне ад знішчальнікаў, збівалі намнога менш. Гэта так. Але я і ў Мурманску, і ў Афрыкандзе, дзе адна з нашых батарэй прыкрывала аэрадром дальніх бамбардзіроўшчыкаў, (а я, тады ўжо "вольны казак" — камсорг дывізіёну, любіў гэтую батарэю і часта наведваўся туды), не раз чуў ад пілотаў, што "месераў" яны баяцца менш, чым агню зенітак, манеўр знішчальніка можна прадбачыць, разрыў снарада не прадбачыш: адзін рвануў перад носам, другі зверху. Дзе выбухне трэці?

На прамое пападанне ў зеніце разлічваць нельга, гэта не ў супрацьтанкавай артылерыі. За ўсю вайну я помню адно прамое (так мы лічылі) пападанне. Там жа, у Мурманску, праз год пасля пачатку вайны. Немцы налятаелі бясплынна — чарговы караван прыйшоў. На ствалах пушак гарэла фарба. У дзень прылятала пяць "Ю—88", цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў. Ішлі кучна — стралой, як на парадзе: вядучы і з бакоў, крыху ззаду, па двое. У Мурманск, па загаду Сталіна, прыслалі ажно два зенітныя палкі, стаяла задача: ніводзін карабель саюзнікаў не павінен быць патоплены каля партовых прычалаў, на разгрузцы.

Агонь вялі добрая паўсотня гарматаў рознага калібра. І раптам, на здзіўленне нам, абстрэляным, адзін з бакавых "юнкерсаў" выбухнуў у паветры, не далягушы да заліва, разляцеўся на кавалкі, якія пасыпаліся на сопкі, яго сусед задыміў, скінуў бомбы ў заліў і ўпаў на горад. Усе высокія спецыялісты лічылі, што снарад трапіў ў бомбавы люк і самалёт разнеслі яго ж бомбы; асколкі даляцелі да суседа. Зенiткі збілі яшчэ адзін. Два астатнія, скінуўшы груз у заліў, рэзка развярнулі на захад — пад ахову "месершмітаў", якія ўжо вялі бой з нашымі "МІГамі". Аднак нашым сокалам удалося збіць і тыя два бамбавозы і адзін "месер". Якая перамога! Такой яшчэ не было, каб немцы страцілі цэлы эшалон "юнкерсаў", не скінуўшы ніводнай бомбы на караблі.

За той бой шмат каго ўзнагародзілі. Каго? У нашым дывізіёне аднаго камандзіра трэцяй батарэі Саўчанку. Усяго. А мы ж — ветэраны абароны: год таму Мурманск прыкрывалі ўсяго два дывізіёны — наш і марскі.

Аднак захапіўся я "тэхналогіяй зенітнага агню". Няўмольная старэчая памяць: трымае ўсё даўняе і забывае, што было ўчора.

Неадчэпна помню сваіх байцоў. Таго ж Паўлава. Даўся ён мне ў знакі. Больш брыдкага чалавека не ведаў. Нават крыўдна, што ён мой зямляк — стрэшанскі. Камандзіры ўзвода і батарэі лічылі яго лепшым зараджаючым; на камандных паверках з дывізіёна, з штаба 14-й арміі, пазней корпуса ПВО ён заўсёды паказваў найлепшыя вынікі. Каржакаваты, плячысты, даўгарукі, касалапы, ззаду, калі ішоў, падобны да гарылы, меў ён моц, сілу. Але які нахабны быў, прагны, зайздросны, зладзеяваты. Ці мыў калі рукі? Выцірaў пакулпем і хапаў на дзесяць грамаў больш кавалак хлеба. На сем чалавек разліку старшына выдаваў "цагліну" — на снеданне, абед, вячэру. Норма была 600 грамаў на дзень. Але ці важыў бохан кілаграм чатырыста? Хто праверыць? Дзялёжку хлеба даручылі Кошалеву дэмакратычным галасаваннем. Паўлаў патрабаваў, каб рэзалі па чарзе. Чаму адзін Грышка? Святы ён? Быццам справядліва. Ды прагаласавалі толькі ён, Паўлаў і Кошаляў, астатнія яўна адчувалі тое ж, што і я: не хацелі есці хлеб з паўлавых рук. Можа, за гэта ён не любіў усіх нас. Помсціў своеасабліва. Пасля палярных марозаў і гарачай страляніны ў любы адбой — уначы ці ўдзень — у цеснай зямлянцы, напаленай "буржуйкай", засыналі ўміг. Але праз якую гадзіну не хапала паветра і прачыналіся ад іншай "страляніны". Паўлаў грамагучна выпускаў "злы дух".

мне не хапала яго малітваў і хрышчэння пад звон гільзы — баявой трывогі, а потым адбоя; у 1941 годзе немцы яшчэ спрабавалі бамбіць батарэі, пападанні здараліся рэдка, але былі: на адной батарэі, "маскоўскага папка" (з тых, што абаранялі Маскву), бомба ўпала ў цэнтр батарэі, у камандны пункт. Загінула больш палавіны асабовага склада: камбат, намбат, камандзіры ўзводаў, разлікі дальнямера, ПУАЗО, частка людзей з гарматных разлікаў.

Самы брыдкі "падарунак" Паўлаў паднёс мне пад новы 1942 год. Я камандаваў чацвёртай гарматай. А самы блізкі мне чалавек, зямляк з аднаго раёна — Церахоўскага і аднакурснік — разам канчалі тэхнікум, разам прызываліся з Гомеля, разам служылі ў вучэбнай батарэі, — Мікалай Літвінаў. Настрой пад Новы год узняўся: разграмілі немцаў пад Масквой, налётаў менш, праўда, порт быў пусты, караван не прыйшоў. (Праз многа гадоў з мемуараў Чэрчыля я даведаўся, што пасля разгрома першага каравана — з 39 грузавых і канвойных судоў да Мурманска дайшло ўсяго 14, ён, Чэрчэль, увогуле быў супраць таго, каб слаць дапамогу СССР Паўночным марскім шляхам, толькі праз Іран; Рузвельт перамог — за гэты шлях выступіў, і 1942—43 годы былі пікамі загрузкі Мурманскага і Архангальскага партоў).

Мы наіўна паверылі, што 42-гі будзе годам Перамогі. І мы з Колем з дзіцячай наіўнасцю дамовіліся сустрэць Новы год па асобаму; быццам ад таго, як мы яго сустрэнем, залежыць перамога. А як? Па-гусарску! З выпіўкай. Нам у абед давалі па сто грамаў "наркомаўскіх". Не будзем піць дні два-тры, назбіраем у фляжках грамаў па 200-300. І глытнём у катлаване ці ў сталоўцы па двайной дозе. Не было б толькі ў 12 ночы лётнай пагоды.

Не пашанцавала. Было ясна. У небе святочна-шматколерныя палотнішчы палярнага ззяння. І няспынна гудзеў варожы самалёт. Немцы скарысталі новую тактыку: масавых налётаў у доўгую палярную ноч не рабілі. Але пускалі па аднаму-два бамбавозу, той скідваў у чорны, паміж белых снягоў, заліў адну бомбу і доўга кружыў над горадам, на змену прылятаў другі — і так усю ноч. Спачатку мы па гэтых адзіночках вялі загараджальны агонь — выстрэльвалі за ноч сотні дарагіх снарадаў, якія прывозілі з далёкага Урала, дзе іх выраблялі жанчыны, дзяды, дзеці.

Нямецкую хітрасць — апустошыць арсенал баезапасу, знясіліць за ноч людзей — хутка раскусілі не толькі генералы — радавыя выказваліся на гэты конт. З'явіўся загад: агонь весці толькі па тым самалёце, які лавілі пражэктары. Лавілі нярэдка, але вялі мінуту-дзве, умелі фашысты выслізгваць з яркіх праменняў.

У дванаццаць наступіла цішыня; немцы сустракалі Новы год. Мы працягвалі дзяжурыць на дваццаціградусным марозе. Але праз гадзіну Баранцава мора дало падарунак —

(Працяг на стар. 15)

# ІМЯ І ТВОРЧАСЦЬ

**У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі 16 снежня адкрываецца выстаўка, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Івана АХРЭМЧЫКА.**

**Івана Восіпавіча Ахрэмчыка нездарма называюць пачынальнікам гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыкі ў беларускім мастацтве. Ён увасобіў сапраўды лёсавызначальныя моманты ў станаўленні маладой Беларусі: "Першы з'езд РСДРП у Мінску" (1929), "Падпісанне маніфесту аб утварэнні БССР" (1929), "Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск" (1934—35), "Пасяджэнне ЦК КП(б) Беларусі 3 ліпеня 1941" (1943—44).**

**У даваенны перыяд творчасці была распачата серыя партрэтаў творчай інтэлігенцыі, якую прадстаўлялі рэжысёр У. Галубок, кампазітар М. Аладаў, мастак Ю. Пэн, паэт А. Александровіч, акцёры З. Бандарына і А. Ільінскі. Была аддадзена даніна пейзажнаму жанру ў жывапісе і ў графіцы. На жаль, многія тагачасныя творы не захаваліся.**



**Гады Вялікай Айчыннай вайны сталіся сапраўдным выпрабаваннем на шчырасць і майстэрства. Тэма мужнасці і трываласці ва ўмовах вайны, агульнай трывогі за лёс сваёй Радзімы, што засталася пад акупацыяй ворага, легла ў аснову партрэтаў такіх яскравых прадстаўнікоў творчай эліты, як актрыса З. Васільева, паэты і пісьменнікі П. Глебка, К. Чорны, І. Гурскі, мастак З. Паўлоўскі. Самы першы і выразны з іх — "Партрэт народнай артысткі З. Васільевай" (1943).**

**Тэма герояў, што аддаюць сваё жыццё дзеля шчасця на зямлі, — у аснове карціны "Абаронцы Брэсцкай крэпасці" (1957—58). Праз вобраз, увасоблены ў гэтай кампазіцыі, мастак сцвярджае: абаронцы крэпасці над Бугам — нязломныя!**

**Сапраўдны творчы прарыў да новай тэматыкі зведаў мастак падчас яго творчай камандзіроўкі ў далёкую Манголію ў 1959 годзе. Асабліва ўражваюць эскізныя партрэтныя выявы простых мангольскіх працаўнікоў. Упершыню для сучаснага беларускага жывапісу адчыніліся далягляды спазнання свету, людзей розных краін, успрынятыя праз эстэтычную прызму беларускага вобразнага бачання.**

**Серыя партрэтаў беларускай інтэлігенцыі папаўняецца выявамі кампазітара М. Аладава, спявачкі Л. Александроўскай, рэжысёра Е. Міровіча, актрысы Л. Ржэцкай, пісьменніка П. Пестрака, мастацтвазнаўцы І. Назімавай, мастака Ц. Кіпніса. Асаблівай шчырасцю вылучаюцца партрэты сям'і Івана Ахрэмчыка.**

**У пейзажах майстра ўвасабляюцца куточкі роднага горада Мінска з яго дворыкамі, садамі і прысадамі. Кветкі бэзу робяцца на гэтых палотнах сімвалам горада.**

**Праблемы каларыту заўсёды хвалявалі мастака. Халодны каларыт прыроды Беларусі з сіня-зялёна-фіялетавымі танамі яскрава адлюстраваўся ў пейзажах 1930—1970-х гадоў. Як прыклад — "Асінбуд" (1931—32), "Нясвіж" (1952), "Яліны на паляне" (1960), "Яблыня квітнее" (1964), "Апошнія дні зімы" (1965), "Адліга" (1976), "З акна майстэрні" (1971), "Зарослая сажалка" (1971) і іншыя.**

**А яшчэ Іван Восіпавіч больш за 40 гадоў займаўся выкладчыцкай дзейнасцю. Праз яго "школу" прайшлі тры пакаленні беларускіх мастакоў. Не дзіўна, што менавіта яго імя — імя І. В. Ахрэмчыка — носіць Беларускі рэспубліканскі комплекс гімназія-каледж мастацтваў.**

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

***НА ЗДЫМКУ: І. Ахрэмчык. Аўтапартрэт (1956).***

# АД ПЕРШЫХ СПРОБ — ДА МАЙСТЭРСТВА

***Вышэйшыя навучальныя ўстановы заўсёды былі спрыяльным асяроддзем па выхаванні мастакоў слова. І неабавязкова, каб гэта былі толькі славесныя факультэты. Ды ўсё ж пераважалі філалагічныя, асабліва ў абласных цэнтрах. Вось і з Магілёўскім дзяржаўным універсітэтам імя А. Куляшова (да 90-х гг. педінстытут) звязана творчасць многіх беларускіх пісьменнікаў.***

У складаныя трыццатыя гады літаратурнае жыццё ў Магілёўскім педінстытуце было такім жа, як і ва ўсіх іншых: існавала літаратурнае аб'яднанне, дзе абмяркоўваліся творы пачаткоўцаў, рэкамендаваліся ў друк. Сярод аўтараў выдзяляліся Ул. Агіевіч, ураджэнец Гомельшчыны, які першы верш надрукаваў у 1928 годзе, і Васіль Матэвушаў з Княжыц Магілёўскага раёна, які дэбютаваў у 1932 годзе. У час навучання ў інстытуце (1933—1937) яны актыўна друкаваліся ў абласной газеце "Камунар Магілёўшчыны". Пачаткоўцаў падтрымлівалі ўжо вядомы тады паэт, празаік і перакладчык Юрка Гаўрук, які выкладаў замежную літаратуру, Іван Гутараў, выкладчык рускай літаратуры, апошні ўзначальваў і літаратурнае аб'яднанне пры абласной газеце і быў рэдактарам "Літаратурнай старонкі".

Вершы пачынаючых паэтаў пісаліся ў духу часу, яны павінны былі перадаваць настрой афіцыйнай радасці ад перамен ("Перед уборкой" Ул. Агіевіча, "Пробны выезд" В. Матэвушава). Тэматыкай і пафасам збліжаліся і іншыя вершы. Не цяжка заўважыць, што яны мелі нават падобныя назвы ("Вечар... вечар...", "Вячэрняя радасць" Ул. Агіевіча, "Асенняя радасць", "Маўклівае шчасце", "Дняпроўскія песні", "Юнацтва" і інш. В. Матэвушава). Несумненна, творы перадавалі юнацкі настрой, шчырае захапленне жыццём, узнёсласць пачуццяў. Спрабавалі свае сілы пачаткоўцы і ў прозе. В. Матэвушаў друкаваў нарысы пра перадавікоў вытворчасці, Ул. Агіевіч апублікаваў у газеце апавяданні "Пераможцы", "Шлях Эмы". І тут аўтары моцна залежалі ад тагачаснай грамадскай атмасферы.

У гэтым плане ад студэнтаў мала чым адрозніваўся і малады выкладчык І. Гутараў, які актыўна друкаваўся на старонках "Камунара Магілёўшчыны". Яго публікацыі вызначаліся шырынёй дыяпазону, імкненнем падзяліцца з чытачом сваім успрыманнем літаратуры і мастацтва. Ужо тады ў даследчыка складвалася сваё ўласнае бачанне творчасці Ул. Маякоўскага, нязвычнай яе формы і моцнай сацыяльнай накіраванасці. Шмат у гэты час І. Гутараў змясціў рэцэнзій на спектаклі Магілёўскага драматычнага тэатра, кінафільмы. Праўда, ужо ў тых публікацыях заўважалася артадаксальнасць, значная праява сацыялагізацыі. Яшчэ больш гэта вынікае з яго тэарэтычных артыкулаў "Бальшавізм і літаратуразнаўства", "К. Маркс і Ф. Энгельс пра сутнасць і спецыфіку мастацкай літаратуры", выдадзеных у Магілёве на пачатку трыццатых гадоў.



Ул. Агіевіч з паступленнем у аспірантуру займаўся толькі крытыкай і літаратуразнаўствам, асноўны пік яго творчасці прыпадае на пасляваенныя гады. Пасля ўжо яго заўчаснай смерці быў выдадзены ў Мінску зборнік артыкулаў "Літаратура і жыццё" (1954), у пэўнай ступені выбранае з яго не надта вялікай творчай спадчыны.

Васіль Матэвушаў у 1948 годзе вярнуўся ў Магілёў, працаваў у абласной газеце, выдаў зборнікі вершаў "Магілёўскі шоўк", "Верасы", пасмяротна выйшаў зборнік "Крынічны луг", які паспеў падрыхтаваць да друку сам паэт. У апошнія гады жыцця В. Матэвушаў быў сакратаром Магілёўскага аддзялення беларускіх пісьменнікаў.

У з'яўленні паэтаў і празаікаў у той час назіралася пэўная пераемнасць. У год заканчэння інстытута Агіевічам і Матэвушавым сталі студэнтамі М. Гарулёў, П. Шасцерыкоў. Гады тыя былі не дужа спрыяльныя для творчасці, аднак М. Гарулёў і Э. Валасевіч дэбютавалі ўжо на першым курсе. Вершы іхнія грашылі апісальнасцю, як і большасці тагачасных пачаткоўцаў. Аднак вайна ўнесла істотныя карэктывы ў  працэс, менавіта на жорсткіх палях вайны працягвалася станаўленне творчых асоб.

З вызваленнем Беларусі і М. Гарулёў, і Э. Валасевіч, і П. Шасцерыкоў вярнуліся ў родны горад. Гарулёў і Шасцерыкоў працавалі ў газеце "За Радзіму", а Валасевіч два гады выкладаў фальклор і рускую літаратуру ў інстытуце, а пасля таксама перайшоў у штат газеты. Для М. Гарулёва тэма вайны, патрыятызму стала асноўнай у творчасці, ёй прысвечана большасць вершаў і паэм, аповесці і драмы, раманы "Прощайте, любимые", "После разлуки".



Э. Валасевіч пасля пачатковых узнёсла-патэтычных твораў стаў больш увагі аддаваць сатыры і гумару. Першыя байкі "Бык" і "Пакуль бяда не напаткала" ён апублікаваў яшчэ ў час працы ў педінстытуце. Пазней стаў вядомым байкапісцам, выдаў шмат зборнікаў сатыры. Байкапісец выкрываў розныя заганныя якасці чалавека, высмейваў бюракратаў, прыстасаванцаў. Траплялі пад яго знішчальнае пяро і іншыя адмоўныя з'явы нашага жыцця.

П. Шасцерыкоў запомніўся чытачу аповесцямі "Камень за камнем" і іншымі творамі. Пісьменнікі былі частымі гасцямі студэнтаў Магілёўскага дзяржаўнага педінстытута імя А. Куляшова ў 70—80-я гады.

У саракавыя гады пачаўся новы віток у развіцці і праяўленні творчых магчымасцей студэнтаў і выкладчыкаў. На працу ў 1949 годзе прыехалі Алесь Макарэвіч і Якуб Усікаў, таленавітыя кры-

# «КАЛІ ЗЕРНЕМ НАЛЬЕЦЦА КАЛОССЕ...»

Зэльва. Надвячорак. Нізкі падворачак. Маленькі ганак. З двух бакоў якога — вяргіні. Стукаем у дзверы. Адтуль голас: "Хто там?.." "Гэта мы, Ларыса Антонаўна"... Ляснула засаўка. Ларыса Антонаўна адчыніла дзверы. Яна была засяроджаная і сумная. Мн е запомніліся найбольш яе вочы: яна не глядзела, а дапытліва ўглядалася, нібы з першага погляду хацела вызначыць, хто ты і з чым?

"Дзяўчаткі мае!" — захвалявалася яна. Дзверы расчыніліся ва ўсю шыр і стукнулі аб сцяну. "Заходзьце, заходзьце!"

Ларыса Антонаўна вяла нас праз прасторную кухню ў свой кабінет. З нашым з'яўленнем яна прасвятлела, выпрасталіся маршчынкі на ілбе, загарэліся вочы. Здаецца, яна нешта гатавала, бо была ў прыгожым фартушку. Хата пахла хлебам і нейкім мяккім водарам траў. І хоць я тут была ўпершыню, мне было гасцінна і ўтульна. Ларыса Антонаўна цікавілася маёй вучобай, распытвала пра універсітэт, пра маіх бацькоў. Яна сядзела насупраць у сваім высокім, старым  крэсле і, як мне здалося, трохі хвалявалася гэтай сустрэчай.

— А вершы ты мае чытала? — раптам спытала Геніюш. Мне было сорамна ёй сказаць, што, хоць я і закончыла сярэднюю школу ў Зэльвенскім раёне і правучылася год (пасля і ўсе пяць) ва універсітэце (закончыла ў 1984 годзе), мне ніхто ніколі не называў яе імені. Я маю на ўвазе нашых выкладчыкаў, а не студэнтаў. З сорамам і болем я сказала ёй, што не. Яна неяк адразу асунулася, пазмрачнела, потым моўчкі падышла да шафы, выцягнула ніжнюю шуфлядку і пачала там нешта шукаць. Дастала маленькую ў светлай вокладцы кніжку і ўздыхнула:

— Іх у мяне ўсяго дзве.

Гэта быў яе зборнічак "Невадам з Нёмана".

Узяла на стале аловак і падпісала: "Іры Ган — парастку маладому, харошаму ад аўтаркі. Зэльва, жнівень, 1980 г.". А на развітанне пацалавала мяне і прасіла цяпер прыходзіць да яе.

Я несла ў руках скарб — яе кнігу. У гэтую ноч на адным дыханні ўвабрала вершы ў сябе. Я была зачараваная сілаю радка, яго трапным словам. Памятаю, дома чытала паэму "Куфар" сваёй бабулі.

— А-я-яй, — дзівілася тая. —Усё як ёсць: і як прадзём, і снуем, і тчэм.

Бабуля мая ў той вечар павесялела і ўвесь час мармытала пад нос: "Гм, так і ёсць. Гэтак, гэтак..." І прасіла пачытаць яшчэ.

Я прыходзіла да Ларысы Геніюш. Можа, не вельмі часта. Бачыла, як хвалявалі яе гэтыя сустрэчы. Ларыса Антонаўна садзіла мяне насупраць і вылівала мне свой боль — вершы. Чытала вельмі праніклёна, здавалася, сэрца даставала з грудзей. Вочы яе гарэлі агнём, твар быў напружаны. Правай рукой дырыжыравала ў такт вершаў. Я слухала і ведала: гэта тое галоўнае і светлае, што павінна адбыцца ў маім жыцці. Тут я навучылася па-сапраўднаму слухаць, любіць і разумець паэзію.

Аднойчы я спытала ў Ларысы Антонаўны, чаму яе прозвішча пішуць Геніюш, а не так, як падпісвае вершы яна сама: без "і". Твар яе засмуціўся: "Скарожылі..." І больш нічога пра гэта не прамовіла.

Ларыса Антонаўна любіла, калі я чытала ёй свае вершы. Яна вельмі ўважліва слухала і тут жа давала ацэнку. Памятаю, чытала ёй новы верш. Паэтка прыціснула мяне да грудзей, пасля трымала за плечы і ўглядалася ў вочы. Тады і сказала мне: "Ну што ж, я магу спакойна паміраць".

Я памятаю яе, як чалавека надзвычай чулай душы. Клапоцячыся пра тое, ці паспяваем мы, студэнты, раніцай перад лекцыямі што-небудзь перакусіць, яна вучыла мяне грэць гарбату з вечара і трымаць яе ў тэрмасе да снядання. Гэтай парадаю карыстаюся і цяпер. Памятаю, як яна дарыла мне духі, цукеркі, шакалад — ніколі не выпускала з пустымі рукамі. Не дзіва — я ж ёй унучка. "Няхай Вам лёгка, прыемна ды добра вучыцца! Поспеху Вам, любыя ўнукі!" — пісала Геніюш у адным з лістоў. Дарэчы, з гэтым пісьмом яна даслала верш, які прысвяціла мне. Я ёй вельмі часта скардзілася на тое, што сумую па вёсцы, што цяжка мне ў горадзе. Памятаю, чытала ёй неяк свой "упадніцкі" верш, наконт таго, што найлепей мне ў сваёй вёсачцы і нікуды не хочацца ехаць:

*Так сядзела б у куточку пад ліпай,*
*І чакала б калодзежны звон.*
*І не зваў бы мяне і не клікаў*
*Паравозны гудок-барытон...*

Геніюш вельмі абуралася такім матывам: "Трэба любіць усю зямлю, дзе ты нарадзілася, а не толькі сваю вёску, бо чыя ж гэтая зямля — адвеку наша. І рукі нельга складваць".

тыкі і літаратуразнаўцы, былі студэнтамі будучыя навукоўцы М. Луфераў, Дз. Бугаёў, К. Хромчанка, іншыя маладыя людзі, якія спрабавалі свой паэтычны голас. Яны ўсе былі ўдзельнікамі літаратурнага аб'яднання факультэта і пры газеце "За Радзіму".

А. Макарэвіч і Я. Усікаў змяшчалі ў перыядычным друку артыкулы пра бягучы літаратурны працэс, рэцэнзіі на новыя творы. Я. Усікаў прынцыпова не прымаў прыгладжанасці ў выяўленні жыцця, бесканфліктных літаратурных твораў. Многае з напісанага імі застаецца надзённым і сёння. Найбольш актуальныя па праблематыцы артыкулы Я. Усікаў выдаў у зборніку "Грамадзянскае сумленне мастака" (1976).

А. Макарэвіч выдаў манаграфіі "Сатыра Кандрата Крапівы", "Фальклорныя матывы ў драматургіі Янкі Купалы", "Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік".

Я. Усікаў даследаваў драматургічныя жанры, гісторыю станаўлення і развіцця камедыі. Ён апублікаваў навуковыя працы "Драматургія Кандрата Крапівы: Нарысы аб станоўчым героі", "Беларуская камедыя", "Андрэй Макаёнак. Нарыс жыцця і творчасці". Я. Усікаў быў, па сутнасці, першапраходцам у даследаванні гэтага жанру літаратуры.

Значныя навуковыя здабыткі і ў іхніх вучняў. М. Луфераў выдаў манаграфіі "Проза Кузьмы Чорнага", "Праблемы сучаснай беларускай прозы". К. Хромчанка — "Піліп Пестрак. Жыццё і творчасць", "Беларуская мастацкая проза: Канец XIX — пачатак XX стагоддзя". Навуковыя высновы гэтых даследчыкаў і зараз актыўна выкарыстоўваюцца пры далейшай распрацоўцы гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры. К. Хромчанка прадаўжае працу ў гэтым накірунку.

Вельмі актыўна працуе ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства Дз. Бугаёў. За тры дзесяцігоддзі ён выдаў каля трыццаці кніг артыкулаў, манаграфій па літаратуры XX стагоддзя. Ён дае новае ўспрыманне твораў, напісаных у першай палове мінулага стагоддзя, асэнсоўвае сучасны літаратурны працэс, ідзе непраторанымі сцежкамі, адкрываючы новыя мастацкія з'явы.

Літаратурнае аб'яднанне "Маладыя галасы", якім на працягу доўгіх гадоў кіраваў Я. Усікаў, дало пуцёўку ў літаратурнае жыццё многім паэтам, празаікам, літаратуразнаўцам. З яго выйшлі В. Ракаў, Б. Казанаў, А. Канапелька, М. Казакоў, У. Бутрамееў, М. Кенька і іншыя. Гэта прадстаўнікі розных факультэтаў, і не толькі гуманітарнага профілю.

В. Ракаў выдаў кнігі "Акно ў зялёны сад", "Песня і памяць", "І сноп, і птах, і я..." Для паэзіі В. Ракава характэрна замілаванасць родным краем, Прысожжам, услаўленне вернай дружбы і кахання. Тое, што даў інстытут літаратуры Магілёўшчыны, жывіць іхнюю творчасць і зараз. Студэнцкае жыццё падказвае многа тэм для паэта. Гэта яскрава праявілася ў вершах Міхася Казакова: ён згадвае студэнцкія выезды на цалінныя землі, рамантыку студэнцкіх будаўнічых атрадаў у Сібіры, славіць верную студэнцкую дружбу.

Паколькі паэт ужо даўно жыве ў Ялце, то ў яго паэзіі адпаведныя асацыяцыі: крымскія горы нагадваюць яму абшары беларускіх лясоў, разлівы палеткаў васільковага льну ў родным краі — хвалі Чорнага мора, але перш за ўсё яму мроіцца родная старана, з якой ён духоўна не парывае сувязь.

Перманентна мяняе месца жыхарства і Уладзімір Бутрамееў. Пасля заканчэння інстытута працаваў у школах на Магілёўшчыне, пасля ў Слоніме, там жа ў прафесійна-аматарскім тэатры, закончыў курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў, потым і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, з якой звязаў свой далейшы жыццёвы лёс. У Беларусі вядомы перш за ўсё апавяданнямі, драмай "Страсці па Аўдзею" ("Крык на хутары"), пастаўленай Нацыянальным тэатрам імя Янкі Купалы, творам пра драму беларускага сялянства пачатку трыццатых гадоў.

Барыс Казанаў пераважна піша пра рамантыку марскіх паходаў, Анатоль Канапелька ў вершах услаўляў свой родны віцебскі край.

Міхась Кенька піша рэцэнзіі і артыкулы па сучаснай беларускай літаратуры, вывучае тэорыю і практыку перакладу з роднасных моў, выдаў манаграфію "Майстэрства Аркадзя Куляшова-перакладчыка", сам актыўна перакладае з украінскай, рускай і польскай моў.

У розныя гады вучыліся і закончылі універсітэт завочна Якуб Ермаловіч, Аркадзь Кандрусевіч, Рыгор Яўсееў, Панас Палітыка, Васіль Найдзін, Віктар Хаўратовіч, Юрась Півуноў (філфак), Іван Аношкін (гістфак). Кожны з гэтых пісьменнікаў унёс істотны ўклад у творчы летапіс універсітэта. Пісьменнікі адлюстравалі дух таго часу, калі яны былі ў аўдыторыях, сустракаліся са сваімі сябрамі і аднадумцамі.

Варта падкрэсліць адну з'яву: выпускнікі універсітэта папаўняюць шэрагі сатырыкаў і гумарыстаў. Першым пракладаў гэты шлях І. Аношкін, які з'яўляецца, у некаторай ступені, адыходнікам, бо асноўная яго пісьменніцкая зацікаўленасць грунтавалася на выяўленні працы хлебароба, мінулага і сучаснага ў жыцці чалавека. П. Палітыка, Р. Яўсееў, В. Найдзін сталі адназначнымі прадстаўнікамі сатырычнага цэху. Кожная новая кніжка сатырыкаў успрымалася грамадскасцю з вялікім задавальненнем і зацікаўленасцю. Сатыра і гумар лечаць людскія душы.

Творчую эстафету адных выпускнікоў прымаюць іншыя, якія ў сваю чаргу перадаюць яе наступнікам. У нядаўні час універсітэт закончылі Ул. Цішуроў, Алена Сугака, Ганна Панамарэнка, Наталля Міхальчук, Таццяна Барысюк, Люба Ляпко, Наталля Кулакова, Аляксей Бацюкоў і інш. Яны друкуюць творы ў абласным і рэспубліканскім друку, выдаюць уласныя кніжкі.

Зараз ва універсітэце працуюць літаратурныя аб'яднанні "Зніч" (ф-т славянскай філалогіі), "Натхненне" (агульнауніверсітэцкае), дзе ўдзельнікі абмяркоўваюць новыя творы, сустракаюцца з чытачамі. У працы аб'яднання прымаюць удзел выкладчыкі В. Іваноў, Ул. Ясеў, С. Украінка, В. Рагаўцоў, студэнты ўсіх факультэтаў. Узначальвае "Натхненне" Тамара Рыгораўна Міхальчук, паэтка, моваваед. Удзельнікі выдалі два калектыўныя зборнікі сваіх твораў.

На сустрэчу з аматарамі мастацкага слова прыязджалі вядомыя беларускія пісьменнікі І. Чыгрынаў, Э. Валасевіч, А. Вольскі, П. Макаль, Г. Колас, Б. Сачанка, М. Федзюковіч, П. Шасцерыкоў і іншыя. Часта наведваюць універсітэт з мэтай раскрыцця сённяшніх зрухаў у літаратурным працэсе Р. Барадулін, В. Карамазаў, М. Маляўка, Л. Леановіч, А. Пісьмянкоў, І. Аношкін, В. Карпечанка, У. Дуктаў, М. Скобла, У. Арлоў і іншыя.

Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці крыніца натхнення ва універсітэце струменіць з глыбінь.

**Яраслаў КЛІМУЦЬ,**
**г. Магілёў**

---

І праўда, хутка зірнула я на свет іншымі вачамі.

Прапаную чытачам верш, які яшчэ не змяшчаўся ў друку, і ліст Ларысы Геніюш да мяне.

**Ірына ГАН**

•

Зэльва, 23-X-80 г.

*МІЛАЯ ІРА!*

*Прымі мае шчырыя спачуванні з прычыны смерці твайго дзядулі. Няхай наша зямелька лёгкай яму будзе. Дзякуй табе за ліст і за верш. Яны вельмі добрыя, толькі думай над імі болей, выгладжвай, апрацоўвай. Але галоўнае тое, што крынічыць у іх жыццё і яны ў цябе — жывыя.*

*А Сяргей Сокалаў, гэта сапраўды сокал! Рамантык крыху, і добра так. Толькі ў нас кажуць не "падол", а "прыпол". — "З прыполу хмар асенні дождж пасеяў кругом грыбы" і г. д.*

*Вельмі буду рада сустрэцца з Вамі і шчыра Вас да сябе запрашаю, калі буду жыць... Сталася так, што вельмі дрэнна з маім здароўем. Хацелі мяне пакласці ў больніцу, але я адпрасілася. Абяцала нічога не рабіць, не хадзіць хутка. Напісалі мне шэсць гатункаў лекаў. Хаджу на траякія ўколы. Скаполі мяне, як рэшата, а сэрца баліць, не сціхае. Я маўчу, бо не хачу надта ў больніцу. Холадна там і сумна. Учора быў дождж, а мне так захацелася наведаць мужа. Занесла яму апошнія яргіні, пагутарыла з ім крыху. Йдучы з могілак, думала пра цябе і здавалася мне, што я — гэта ты. Так і напісала малы верш быццам ад твайго сэрца. Ён таксама не апрацаваны. Сырэц. Пасылаю табе яго, Ірачка, канцоўку, безумоўна, прыдумала самавольна. Даруй, ласкава, за гэта. Фантазія паэтаў меж не ведае. Шлю табе яшчэ адзін верш аб нашай жаноцкай "моцы" і ролі ў жыцці. Ці бачыш часамі Лену? Як чуецца тое маё мілае дзяўчо? Забрала мне ўнука! Міхась да бабусі ні слова! Што ж, я дарую. Добра, што Тваё сэрцайка яшчэ не ў палоне і знайшло час напісаць старэнькай бабусі.*

*Няхай Вам лёгка, прыемна ды добра вучыцца! Поспеху Вам, любыя ўнукі! Твая сатыра вельмі сугучная маім тут уражанням з жыцця. Аб гэтым у лісце наступным.*

*Цалую цябе.*

**Ларыса ГЕНІЮШ**

***

*Між высокімі сумна дамамі,*
*Прага ціхай свабоды ў вачах.*
*Я пайду не па сапа да мамы,*
*А адчуць позней восені пах.*
*Дрэў, бы ў сне, залацістае явішча,*
*Сіняваты туман ля ракі.*
*Так паважна снуюць*
*па бульбянішчы,*
*Пахіліўшы галовы, гракі.*
*Сярод поля расці давялося,*
*У жылах прадзедаў верная кроў.*
*Хачу чуць,*
*што зайграе мне восень,*
*На нацягнутых струнах вятроў.*
*Сваё сэрца,*
*скарб бураў не знаючы,*
*Узлётаў прагнае, як жураўлі,*
*Я аддам толькі ў восень,*
*кахаючы,*
*Сыну вернаму нашай зямлі!*

## ПОМНІК ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

З бласлаўлення мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, у Зэльве на прылеглай тэрыторыі Траецкай царквы, што знаходзіцца амаль насупраць дома, дзе Ларыса Геніюш дажывала свае апошнія гады, паўстаў ёй помнік. Гэта царква была для паэткі духоўным і беларускім апірышчам.

На адкрыцці помніка Ларысе Геніюш выступілі Анатоль Белы, Пятро Краўчанка, мастак Алесь Марачкін, доктар тэхнічных навук Аляксей Саламонаў, скульптар Алесь Шатэрнік і іншыя.

**Мікола ЛАВІЦКІ**



# ЗЛОЕ ВОКА...

**(Працяг. Пачатак на стар. 13)**

раптоўную хмарнасць і завею. Адбой трывогі. Спаць! Байцы мае паснулі ўміг, не чуючы паўлаўскую "пальбу". Дзяжурыць я пакінуў Кошалева, не яго чарга, але ён ніколі ні ад чаго не адмаўляўся. Я чакаў сябра свайго. Мікалай з'явіўся гадзіны ў дзве ночы. Кошалеў крануў маю нагу (я лажыўся каля дзвярэй, каб па трывозе выбегчы першым):

— Таварыш сяржант, да вас Літвінаў...

З рэчавага мяшка, які служыў за падушку, я дастаў алюмініевую фляжку, кавалак ужо падсохлага хлеба.

Завея засыпала катлаван: папацеем заўтра.

— Дзе? — спытаў я ў Мікалая; Кошалеву пра сваю задуму сказалі. Ён уздыхнуў і зрабіў рух рукой — як бы перахрысціў.

— У сталоўцы.

— А калі там камандзіры адзначаюць?

— Не, яны ў сваёй зямлянцы. Я чуў...

"Сталоўка" якраз бліжэй да маёй гарматы: крокаў за паўсотню ў нізіне. Уласна ніякай сталоўкі не было. Дашчаты нізкі барак, у якім мясцілася кухня з двума катламі і капцёрка з самых трывалых дошак, якую старшына зачыняў ажно на два замкі: там ляжалі прадукты — хлеб, траска, крупы; гарэлку камбат трымаў у сваёй зямлянцы. Тое, што называлася гучна сталоўка, — маленькі пакойчык з адным доўгім сталом, дзе ў лётную пагоду маглі паесці не больш двух разлікаў, што здаралася рэдка. Астатнім разносілі ў тэрмасах. І шчасце, калі можна было з'есці ў зямлянцы, часцей — каля гарматы, каля прыбораў, дзе суп на дне кацялка замярзаў, лыжкай шкраблі ледзяшы.

"Сталоўка" не зачынялася. Туды мы з Колем і шмыгнулі, як злодзеі, каб сустрэць год 1942. Усё ж у зацішку. З кухні яшчэ патыхае рэшткамі цеплыні і пахамі даўняй ужо вячэры. Па кавалачку траскі не пашкодзіла б! Але дзе там! Зачынена. Ды і хто мог пакінуць гэтыя кавалкі?

Кружку захапіў Мікалай. Я вобмацкам наліў грамаў сто.

— Ну, за Новы год!

— Не, давай ты першы. За Перамогу!

— Ну, дарагі Коля, дай нам Бог дажыць да яе — да перамогі...

— Ты — як Кошалеў.

— Кошалеў — святы чалавек. Будзьма!

Я сербануў з кружкі і... горш, чым абпёкся. Не гарэлка! Брыдота! Уміг сцяміў, што ў маёй фляжцы. І чыя гэта работка. Выплюнуў. Выплюснуў з кружкі.

— Ты што? — здзівіўся мой сябра.

— Сцулі! Паўлаў!

Мікалай выхапіў фляжку. Панюхаў. Засмяяўся. А мяне званітавала слізззю — страўнік быў пусты. З Мікалаевай фляжкі паласкаў рот і не глытаў — выплёўваў.

Не было б так брыдка, каб гэта не мача бруднай жывёліны. Ён ... ён падгледзеў, што я збіраю гарэлку, выжлукціў усе трыста грамаў, і п'янага яго ніхто не заўважыў. Але завошта такая злая, брыдкая, нечалавечая помста? Што я яму зрабіў? Ну, выпі, зладзюга, налі вады, вунь яно побач, возера, якое поіць увесь Мурманск! Нішто сабе зямляк такі. Падлюга з апошніх падлюг! Чаму ў чалавека гэтулькі злосці?

Мікалаевай гарэлкай трохі прапаласкаў рот, прадэзінфікаваў страўнік, але які мог быць настрой? Якое свята?

Дзень той, першы ў новым годзе, не мог есці, толькі ўспомню — ванітавала. Санінструктар Алёша Спірын устрывожыўся, спірту не пашкадаваў, але і спірт не памог.

— Чым ты мог атруціцца?

Камбат прымусіў старшыну і кухара ўсю капцёркуператрэсці: нішто не сапсавалася? Што магло сапсавацца ў такі мароз? Добра пасоленая траска?

Шэсцьдзесят гадоў у кожную навагоднюю ноч за самымі шыкоўнымі сталамі ўспамінаю, чаго я глытнуў у далёкую палярную ноч, і мне робіцца нядобра — піць п'ю, а закусваць не магу, нават самымі адменнымі прысмакамі. Пра прыгоду тую расказаў аднаму Андрэю, і ён рагатаў на ўвесь дачны пасёлак. Машы расказаў пад старасць. Яна не смяялася, сказала:

— А ты ідэалізуеш людзей.

Хіба ўсіх сваіх герояў ідэалізаваў? Бародка, Гукан, "чаўнакі" з "Сатанінскага тура"... А ў "Атлантах"?

Не, людзей я ведаў, іх высокія якасці і іх заганы. Сустракаў іншых паўлавых. Іх не разумеў. Злаваў я тады на свайго зараджаючага? Злаваў. Ненавідзеў? Бадай не. Хутчэй — баяўся. Камбата, камдзіва не баяўся. Свайго падначаленага баяўся, так і азіраўся, каб ён не зрабіў яшчэ якую брыдоту, навагодняя ж прайшла беспакарана — я ніводнага слова не сказаў. Толькі дні два есці не мог. І ён адзін здагадваўся — чаму.

Вызваліўся я ад "злога духа" вясной таго ж года: мяне прызначылі хімінструктарам: прыляцела вестка, што немцы ў Крыму прымянілі газы. Пасля Сталінграда і Арлоўска-Курскай бітвы адзінка хімінструктара ў ротах, батарэях была скасавана. Пабаяўся Гітлер прымяніць газы нават у агоніі.

Але што моцна здзівіла: камандзірам гарматы назначылі ціхага ўкраінца Лысуху, і той здолеў "зануздаць" нахабніка і брыдоту, прымусіў нават абцірацца снегам, умывацца, мыць рукі з мылам; мыла нам выдавалі — усюды ж змазка: на гармаце, на снарадах... У параўнанні з пяхотай мы былі "арыстакраты", асабліва калі караваны прыходзілі без вялікіх страт і прывозілі не толькі танкі, машыны, самалёты, але і прадметы гігіены, санітарыі. Калі ў канцы 1942 года паступілі дзяўчаты, іх так часта вазілі ў лазню, што такія ворагі, як вошы, ім не пагражалі, а кожная прывезла іх — не дай Бог, асабліва дзяўчаты-комі. Памылі, адзелі ва ўсё вайсковае — да панталонаў і ліфчыкаў. Паненкі!

**(Заканчэнне ў наступным нумары)**

## Мікалай ГОГАЛЬ:



*"Паэт на ніве слова павінен быць такім жа бездакорным, як і ўсялякі іншы на сваёй ніве. Калі пісьменнік будзе апраўдвацца нейкімі абставінамі, што сталіся прычынай няшчырасці, ці неабдуманасці, ці паспешлівай нястрыманасці яго слова, тады і ўсялякі несправядлівы суддзя можа апраўдацца ў тым, што ўзяў хабар і гандляваў правасуддзем, ускладаючы віну на свае цяжкія абставіны, на жонку, на вялікую сям'ю, словам — ці мала на што можна спаслацца! У чалавека раптам з'явяцца цяжкія абставіны. Нашчадкам няма справы да таго, хто вінаваты, што пісьменнік сказаў глупства або недарэчнасць, або выказаўся неразважліва і неразумна. Яны не стануць разбірацца, хто штурхаў яго пад руку: ці недальнабачны сябрук, што падштурхоўваў яго дзейнасць, ці журналіст, што клапаціўся толькі пра выгаду свайго часопіса. Нашчадкі не возьмуць у разлік ні кумаўство, ні журналістаў, ні ўласную яго беднасць і цяжкія абставіны. Яны папракнуць яго, а не іх. "Навошта ты не ўстаяў супраць усяго гэтага? Ты ж адчуў сам сумленнасць звання свайго; ты ж здолеў абраць яго перад іншымі, больш выгаднымі пасадамі і зрабіў гэта не з-за якойсьці там фантазіі, але таму, што ў сабе пачуў тое пакліканне Божае; бо ты ж атрымаў да ўсяго яшчэ і розум, што бачыў далей, шырэй і глыбей справы, чым тыя, хто цябе падштурхоўвалі! Навошта ж ты быў дзіцем, а не мужам, атрымаўшы ўсё, што патрэбна для мужа?"*

**("Выбраныя месцы з ліставання з сябрамі", 1884г.)**




**Юрась НЕРАТОК. *"Фотаальбом"* (вершы, Мінск, УП "Тэхнапрынт", 2003г., 250 экз., рэдактар У.Казбярук).**

Яшчэ вясной прынёс мне Юрась Нераток свой рукапіс вершаў, а заадно папрасіў напісаць і прадмоўку да яго. Я прачытаў, накрэсліў свае заўвагі, напісаў "слоўца папярод вершаў". А позняй восенню, атрымаўшы гэты зборнік і адгарнуўшы яго, быў агаломшаны: "адкрывалі" кніжку ажно чатыры прадмовы (В.Шніпа, В.Гардзея, В.Жуковіча), уключна з маёй. Не прыпамінаю падобнай рэкламнай акцыі. Яна ці не заценіла сам вершаваны праект — плён творчай дзейнасці самога паэта... Што да мяне, то я вызнаў неадназначныя пачуцці. Ведаеце, калі ў хмельнай маладосці быць трэцім лічылася за ўдачу, то сёння, у дні цвярозага роздуму, апынуўшыся чацвёртым, пачуваеш сябе лішнім... Зрэшты, прыхаваем сваю атрутную рэўнасць да больш паскуднай літаратурнай пары, і засведчым тое, што насамрэч выказаў паэт у сваіх вершах. Між іншым, Ю.Нераток не маладзён. Ён аўтар змястоўнай прозы і бардаўскіх тэкстаў (піша таксама па-руску пад псеўданімамі Юрый Юлаў). Я пісаў у сваёй прадмове, што без паэтаў жыць паскудна нават у квітнеючай краіне. Хоць нядаўна ў тэлефоннай размове з адной са старэйшых нашых пісьменніц Аленай Васілевіч, якая тонка адчувае паэзію, пачуў нечаканае: *"Ой, Лёнечка, цяпер столькі паэтаў расплодзілася! Усё зарыфмавалі. У наш час да Паэзіі ставіліся і высакародней і ашчадней. Можа і добра, што вы ў гэтым вэрхапе змоўклі..."*

А мне падумалася трохі інакш: а можа, гэта сама Прырода паўстала супраць цынізму і амаральнасці нашага часу і стварае пасярод зямных пустэльняў чалавечага быцця духоўныя аазісы. І нам трэба радавацца кожнаму новаму творцу і нават рукатворцу чалавечай культуры. У маёй прадмоўцы ёсць такая фраза: *"Гэта вам не бальшавіцкія часы, калі выдаваліся самаўладныя дэкрэты тыпу: з кожнага двара — аднаго песняра!*

*Сёння лозунгі іншыя: на кожны хутар — адзін камп'ютэр!*

*А там пабачым, што з таго выйдзе: сучасныя прарабы духу ці новыя прылады руху?..*

*Але, скажам шчыра, зусім без паэтаў усё ж паскудна."*

Юрась Нераток — паэт здольны. І, што істотна, да крытыкі ўважны. Праўда, аддаваць у рукі крытыка канчатковы плён сваёй творчасці, нават калі ён "хросны бацька", я Юрасю ўсё ж не раіў бы. Асабліва на сталую перспектыву.

*"...Са мною Муза час размовай бавіць,*
*аб чым — пакуль няўцямна ёй самой.*
*Ну, ні бяды! Як што не так — падправіць*
*літаратурны хросна бацька мой."*

Спадзяюся без крыўды для аўтара, апошнія два радкі так і падбухторваюць мяне згадаць народную прымаўку: *габлюй, габлюй, сынку, бацька прыйдзе — сякеркай падправіць.*

Аднак, чытаючы лепшыя вершы аўтара, якіх, без падхалімства зазначу, большая частка зборніка, мне нічога іншага не застаецца, як быць хаўруснікам і аднадумцам хоць бы вось гэтых выбітных яго радкоў адносна нашага з вамі будучага:

*"Каб у твораў былі чытачы —*
*як таго не жадаць паэту!*
*І яшчэ (хоць бязглузда гучыць):*
*каб той свет быў не горшы за гэты."*

Усё астатняе пра Юрася Няратка і яго вершы вы прачытаеце ва ўжо згаданых напачатку чатырох прадмовах. Па праўдзе кажучы, не хацелася б, каб падобныя пратэкцыі ў храм паэзіі набылі для нашых маладых літаратараў незваротны характар...

**Уладзімер АРЛОЎ. *"Адкусі галаву вароне"* (эсэ, Vostraja Brama, НАША НІВА, 2003г., рэдактар С.Дубавец).**

Уладзімір Арлоў не дае заспакаення сваім прыхільнікам і чытачам. Яго выступленні і вандроўныя эсэ *дастаюць* нас сваім — ужо, праўда, трошкі звыклым і аднастайным іранічным стылем — калі, вядома, самі мы *ўпісваемся* ў яго адраджэнскую нацыянал-патрыятычную схему. Яшчэ гадоў пятнаццаць таму многія прадказвалі, што У.Арлоў зойме ў нацыянальнай літаратуры "гістарычную нішу" У.Караткевіча. Аднак, думаю, што Уладзімір Арлоў пакрыўдзіўся б, калі б я пацвердзіў сёння тыя здагадкі. Бо няма большай утопіі, чым свядома змусіць сябе пакваліцца на чужое месца (даўно і назаўжды занятае), каб, у рэшце рэшт, застацца без свайго ўласнага...

Таму Уладзімір пачаў ствараць **Уладзімера.** Найперш свой літаратурны стыль і адраджэнскі імідж. Асабліва гэта тычыцца яго гістарычных напрацовак. Не меншы плён У.Арлоў мае і ў мастацкай творчасці. Яго зборнікі вершаў, кніжкі апавяданняў і аповесцей займелі шырокую папулярнасць (не зважаючы на звужанасць дзяржаўнага беларускамоўя). Прыхільнікаў творчасці Арлова можна сустрэць і ў дзіцячым садку, і ў гарадской школе, і на заводзе, і ва ўладных міністэрскіх кабінетах.

Зайздросная амплітуда грамадскай і літаратурнай дзейнасці: ад Полацка — да Мінска, ад кампартыі — да БНФ, ад самвыдата — да дзяржвыдавецтва, ад прэміі ЛенКама — да прэміі Пэн-Цэнтра... *Змяняць свет, застаючыся самім сабой,* — гэта таксама вялікае чалавечае мастацтва. І не зважаючы, шаноўныя чытачы, на вашы неадназначныя эмоцыі пасля прачытання гэтай маёй слоўнай эскапады, усё, вышэй моўленае, — дзеля незалежнай Беларусі, на карысць Айчыны і свайго народа. Не кожнаму дадзена.

Што ж тычыцца гэтай кніжкі, то для мяне яна празмерна кулуарная і анекдатычная. Смех, кажуць, лечыць. Але ж не ўсе чытачы хворыя... Вось, да прыкладу, цытую цалкам раздзел са "жніваньскіх маргіналій". Называецца "Творчая лябараторыя":

*"З адзеньня на ёй была толькі цыгарэта.*

*Ты напішаш апавяданьне, якое будзе пачынацца з гэтага сказу".*

Безумоўна, у кніжцы шмат іншай вандроўнай інфармацыі са значна багацейшым "прыкідам", па-мастацку дасціпнай, часам, саркастычнай... Усё пададзена сцісла, таму кніжка вандроўнікалітаратара падасца да месца і вандроўніку-чытачу, калі, вядома, ён сам не рулюе, выбіраючы ўласны шлях па ўжо наезджаных дарогах... І ўсё ж будзем з нецярпеннем чакаць ад нашага масцітага пісьменніка **"больш канструктыўнага"**, як гаворыць адзін не менш вядомы наш чалавек, мастацкага палатна...

Сам жа Уладзімір Аляксеевіч, мабыць, нешта ведаючы наперад, накрэсліў на падараванай майму сямейству кніжцы *"Адкусі галаву вароне"* вось такі "папераджальны" надпіс: *"Дарагім Веры, Лёню й Ксені Галубовічам зычу захаваць свае галовы цэлымі".*

Адразу я не зусім уразумеў сэнс аўтографа. Цяпер жа, напісаўшы свой тэкст адносна яго кніжкі, толькі пра *тое* і думаю...




**Караль ВАЙТЫЛА. *"Паэзія. Выбранае"*, ЯН ПАВЕЛ II. *"Рымскі трыпціх"* (Мінск, выдавецтва "Про Хрысто", 2003г., 1000 асобнікаў, рэдактар К.Лялько.)**

Я даўно меў пожад пачытаць вершы менавіта Караля Вайтылы. Карцела зрабіць нават пэўны параўнаўчы аналіз са сваім свецкім вершаскладаннем. Хацелася ведаць, якое ж было "анёльскае апярэнне" ў маладога польскага паэта, будучага Папы Рымскага? Сказаць, што прачытаўшы яго выбранае я быў расчараваны, ніяк не выпадае, бо таямнічасць кроз (веры па сутнасці) і глыбіня мыслення мне заўжды імпанавалі нават у такой адвольнай справе, як паэзія. А вось стрыманасць пачуццяў, іх унутраная глыбокая прыхаванасць і тэалагічная медытацыя над "кананізаванымі вобразамі" як бы падразалі крылы творчаму натхненню...

Ды сёння, бадай, я ўжо так не думаю. Кароткія паэмы Караля Вайтылы "забіраюць" іншым. Бязмежнай верай і спрадвечнай мудрасцю. Вось якую трапную цытату прыводзіць у сваім слове да беларускага выдання Данута Бічэль (яна ж і Алесь Чобат пераклалі "выбранае"): *"Што ж да паэзіі Караля Вайтылы, то, як пісаў польскі крытык Вальдэмар Смашч, "з першых сваіх вершаў ён гаварыў пра Бога і чалавека, упісанага ў Божую справу збаўлення. Не абсалютызаваў паэзіі, але ўсведамляў яе выключнасць, бо паэтычнага пазнання нельга замяніць ніякім іншым. Ёсць пэўныя абсягі нашай рэчаіснасці, якія не паддаюцца іншым спосабам пазнання. Ужо Шэкспір сказаў, што на зямлі існуюць рэчы, якія філосафам нават не сніліся."*

І гэта пацвярджаюць лепшыя радкі і строфы будучага пантыфіка.

*"Бо ты ледзь празрысты,*
*а яснасць дыхае адусюль."*

А што тычыцца высновы творчасці Караля Вайтылы, то ўся яна заключаецца ў гэтых чатырох афарыстычных радках:

*"Любоў мне ўсё праясніла,*
*Любоў мне ўсё адгадала —*
*Таму абагаўляю Любоў,*
*дзе б яна ні вандравала."*

Значнасць кожнага сапраўднага творцы выяўляецца цалкам цягам усяго літаратурнага жыцця. Таму пераход ад паэм маладога Караля Вайтылы да "Рымскага трыпціха" васьмідзесяцігадовага Яна Паўла II роўны і абсалютна лагічны, калі такое слова можна ўжыць адносна паэзіі. Больш за тое, сталым, саракашасцігадовым, будучы мітрапалітам Кракаўскім ён выказаўся так, сурова і шчыра, **як на духу:**

*"Корань, з якога вырастаю, гэта я — дарастаю*
*да росквіту: гэта мой уласны росквіт,*
*гэта ўласная прыгажосць і брыдота,*
*сціснутыя ў адным творы..."*

І ў гэтым увесь Караль Вайтыла, што стаў Янам Паўлам II.

*"Атуленыя штодня прыгажосцю мовы свае,*
*не адчуваем гаркоты, хоць на рынках*
*замежных не купляюць думак у нас,*
*бо надта дорага словы каштуюць."*

Хто верыць — той разумее...




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Анатоль КАЗЛОЎ**

**Рэдакцыйная рада:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Віктар КАВАЛЁЎ,**

**Вольга КУРТАНІЧ,**

**Віктар ПАТАПЕНКА — намеснік галоўнага рэдактара,**

**Віктар ШНІП — адказны сакратар.**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8153**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

***Электоронны адрас:***
**e-mail: minsk @ lim. by**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1429
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 10.12.2003 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4241

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12